

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 27 (815)** **18 ЛІПЕНЯ 2007 г.**

## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У гэтым квартале адбылося сезоннае паніжэнне падпіскі. Мы страцілі больш за 200 падпісчыкаў, а чытачоў намнога больш. Таму мы вельмі ўдзячныя тым нашым сябрам, хто, нягледзячы на лета, усё такі знайшоў час і сілы, каб застацца з газетай. Са свайго боку рэдакцыя пастараецца, каб газета была, як мага больш, цікавай і змястоўнай, каб у ёй былі матэрыялы самага рознага кшталту, самай рознай скіраванасці. Адно застанецца без зменаў: мы будзем рабіць усё, каб кожны наш матэрыял служыў на карысць Беларусі, каб чалавек, прачытаўшы газету, станавіўся чуць больш беларусам.

| | Красавік | Чэрвень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 9 | 10 |
| Бяроза р.в. | 6 | - |
| Белаазёрск р.в. | 5 | 3 |
| Бярэсце гор. | 19 | 15 |
| Ганцавічы р.в. | 3 | 3 |
| Драгічын р.в. | 3 | 3 |
| Жабінка р.в. | 1 | 1 |
| Іванава р.в | 3 | 1 |
| Івацэвічы р. в. | 6 | 6 |
| Камянец р.в. | 9 | 2 |
| Кобрын гор. | 1 | - |
| Лунінец гор. | 5 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | - |
| Маларыта р.в. | 1 | 2 |
| Пінск гор. | 9 | 8 |
| Пружаны р.в. | 7 | 6 |
| Столін р.в. | - | 2 |
| **Усяго:** | **88** | **64** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | - |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 43 | 27 |
| Віцебск РВПС | 1 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в. | 11 | 10 |
| Глыбокае р.в. | 13 | 11 |
| Гарадок р.в. | 3 | 4 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 2 |
| Дуброўня р.в. | - | 2 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 2 | 3 |
| Міёры р.в. | 2 | 2 |
| Новаполацк гор. | 35 | 31 |
| Ворша гор. | 7 | 4 |
| Полацк гор. | 15 | 9 |
| Паставы р.в. | 5 | 4 |
| Расоны р.в. | 2 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 2 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 4 |
| Шуміліна р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **155** | **124** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 4 | 5 |
| Барысаў гор. | 3 | 4 |
| Вілейка гор. | 3 | 2 |
| Валожын гор. | 6 | 6 |
| Дзяржынск р.в. | 4 | 4 |
| Жодзіна гор. | 4 | 4 |
| Клецк р.в. | 2 | 1 |
| Крупкі р.в. | 3 | 3 |
| Капыль р.в. | - | - |
| Лагойск | 4 | 2 |
| Любань р.в. | - | - |
| Менск гор. | 324 | 243 |
| Менск РВПС | 12 | 11 |
| Маладзечна гор. | 18 | 17 |
| Мядзель р.в. | 4 | 3 |
| Пухавічы РВПС | 8 | 9 |
| Нясвіж р.в. | 3 | 2 |
| Смалявічы р.в. | 1 | 2 |
| Слуцк гор. | 12 | 11 |
| Салігорск гор. | 5 | 6 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 5 | 6 |
| Узда р.в. | 2 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 4 | 4 |
| **Усяго:** | **432** | **348** |

| | Красавік | Чэрвень |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | - |
| Брагін р.в. | 2 | 2 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 40 | 34 |
| Гомель РВПС | 2 | 1 |
| Добруш р.в. | - | - |
| Ельск р.в. | - | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 27 | 23 |
| Жлобін гор. | 5 | 3 |
| Калінкавічы гор. | 3 | 2 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыца р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | 2 | 1 |
| Мазыр гор. | 6 | 5 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | - |
| Нароўля р.в. | 2 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 4 | 2 |
| Рэчыцца гор. | - | - |
| Рагачоў гор. | 1 | 2 |
| Светлагорск гор. | 5 | 4 |
| Хойнікі р.в. | 1 | 1 |
| Чачэрск р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **107** | **86** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 7 | 6 |
| Ваўкавыск гор. | 13 | 9 |
| Воранава р.в. | 5 | 4 |
| Гародня гор. | 47 | 42 |
| Гародня РВПС | 11 | 6 |
| Дзятлава р.в. | 4 | 6 |
| Зэльва р.в. | 2 | 1 |
| Іўе р.в. | 5 | 5 |
| Карэлічы р.в. | 5 | 5 |
| Масты р.в. | 7 | 6 |
| Навагрудак гор. | 6 | 7 |
| Астравец р.в. | 6 | 5 |
| Ашмяны р.в. | 8 | 6 |
| Смаргонь гор. | 13 | 11 |
| Слонім гор. | 16 | 13 |
| Свіслач р.в. | 3 | 4 |
| Шчучын р.в. | 6 | 4 |
| Ліда | 17 | 9 |
| **Усяго:** | **181** | **150** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 7 | 7 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в. | 3 | 3 |
| Быхаў р.в. | 2 | 3 |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 54 | 36 |
| Дрыбін р.в. | 2 | 1 |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 1 | 1 |
| Клімавічы р.в. | - | 1 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | 1 | - |
| Крычаў р.в. | 1 | - |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 4 | 2 |
| Магілёў гор. | 26 | 29 |
| Магілёў РВПС | - | 3 |
| Асіповічы гор. | 5 | 6 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | 1 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 8 | 7 |
| **Усяго** | **120** | **104** |
| **Усяго на краіне** | **1083** | **876** |

# Споўнілася 80 гадоў Георгію Штыхаву



ШТЫХАЎ Георгій Васілевіч (н. 14.7.1927, в. Старая Беліца, цяпер Гомельскі р-н), бел. археолаг і гісторык-медыявіст. Д-р гіст. навук (1983), прафесар (1989). Скончыў БДУ (1956). З 1962 у Ін-це гісторыі Нац. АН Беларусі: навук. супрацоўнік, з 1981 заг. сектара, з 1988 заг. аддзела зон новабудоўляў, з 1993 заг. аддзела археалогіі і гісторыі Полацкай зямлі, з 2001 гал. навук. супрацоўнік аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду. Вывучае стараж. гарады Полацкай зямлі і курганныя могільнікі ранняга сярэднявечча паўн. і цэнтр. Беларусі. З 1982 узначальвае пастаянна дзейную экспедыцыю па даследаванні стараж. Менска. Узначальваў экспедыцыі па вывучэнні Полацка, Віцебска, Заслаўя, Барысава, Лукомля, Лагойска, Копысі. Правёў шырокае даследаванне гэтых гарадоў, выявіў гарадзішча стараж. Барысава, правёў раскопкі паселішча на р. Менцы. Даследаваў больш за 300 курганоў Полацкай зямлі, у т.л. доўгіх курганоў. Вывучаў могільнікі 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э., сінхронныя гарадзішчам банцараўскай культуры. Зрабіў вывад, што фармаванне зах. галіны крывічоў адбывалася на працягу 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н.э., што гіст. ядром Полацкай зямлі з'яўлялася Падзвінне. Даследаваў стараж. скульптуру, дробную пластыку гарадоў Полацкай зямлі, скарбы сярэбраных і залатых рэчаў (Полацкія 11—12 ст., Гараўлянскі 11 ст.). Рэдактар альбомаў «Жывапіс Беларусі XII—XVIII стст.» (1980), «Пластыка Беларусі XII—XVIII стст.» (1983), «Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стст.» (1984). Адзін з аўтараў кніг «Старажытныя гарады Беларусі» (з П.Ф.Лысенкам, 1966), «Старажытныя скарбы Беларусі» (з П.М. Захаранкам, 1971), «Гісторыя Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972), «Гісторыя Беларускай ССР» (1977), «Кіеў і заходнія землі Русі ў IX—XIII стст.» (1982), «Беларуская археалогія» (1987), «Гісторыя сялянства Беларусі» (т. 1, 1997), «Археалогія Беларусі» (т. 2—3, 1999—2000), «Гісторыя Беларусі» (т. 1, 2000), аўтар школьных падручнікаў і дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, складальнік «Дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI— XV стст.)» (1998). Дзярж. прэмія Рэспублікі Беларусь (1990) за ўдзел у выданні «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Ён быў першым прэзідэнтам Асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій у Беларусі (1992-1994), а таксама адным з заснавальнікаў дабрачыннага фонду "Памяць ахвяраў сталінізму ў Беларусі".

Актыўны сябар і сталы фундатар ТБМ.

# 120 гадоў з дня нараджэння Марка Шагала



ШАГАЛ (Chagall) Марк (Моўша Хацкелевіч, Майсей Захаравіч; 7?.7. 1887, г. Віцебск — 28.3.1985), бел. і франц. мастак яўрэйскага паходжання. Ганаровы д-р ун-та ў г. Глазга (Вялікабрытанія; 1959). Вучыўся ў Віцебскай школе-майстэрні Ю. Пэна (1906), рысавальнай школе пры Т-ве заахвочвання мастацтваў (1907—08), прыватнай школе А. Званцавай у Л. Бакста і М. Дабужынскага (1908—10) у Пецярбургу. Удзельнік выставак аб'яднанняў «Асліны хвост» (1912), «Бубновы валет» (1916), «Свет мастацтва» (1919, 1922). У 1910—14 жыў у Парыжы, дзе пад уплывам еўрап. авангардысцкіх кірункаў і рус. нар. мастацтва пісаў карціны, якім уласцівы рытмічная арганізацыя кампазіцыі, геаметрызаванасць аб'ёмаў, напружанасць і эмацыянальнасць колеру, часта дамінаванне яўр. рэліг. і фалькл. тэматыкі: «Я і мая вёска» (1911), «Расіі, аслам і іншым» (1911—12), «Аўтапартрэт з сямю пальцамі», «Яўрэй моліцца» (абодва 1912). З 1914 у Віцебску, з 1915 у Расіі. З 1918 паўнамоцны прадстаўнік па справах мастацтваў у Віцебскай губ., заснавальнік Віцебскай народнай мастацкай вучэльні. З 1920 у Маскве. У 1921—22 выкладаў у прац. калоніі «III Інтэрнацыянал» для беспрытульнікаў у г.п. Малахаўка пад Масквой. У 1922 ці 1923 эміграваў у Парыж, з 1941 у ЗША, у 1947 вярнуўся ў Францыю. Працаваў у жывапісе, станковай і кніжнай графіцы, тэатр.-дэкарацыйным, манум., дэкар.-прыкладным масташве, скульпуры. Асн. тэмы творчасці — сімвалічна асэнсаваныя, выяўленыя праз спалучэнне рознačасовых і рознапрасторавых эпізодаў мантажу віды Віцебска, Парыжа, свет цырка, закаханыя, матывы іудзейскай містыкі: «Віцебск» (1908), «Стары Віцебск», «Блакітныя закаханыя» (абодва 1914), «Зялёныя закаханыя» (пасля 1914), «Ружовыя закаханыя», «Шэрыя закаханыя» (абодва 1916), «Сіні дом у Віцебску», «Шэры дом у Віцебску» (абодва 1917), «Над горадам» (1918), «Павянчаныя Эйфелевай вежай» (1928), «Стары горад» (1929), «Аголеная над Віцебскам» (1933), «У часу няма берагоў» (1939—41), «Масты Сены» (1953), «Каровы над Віцебскам» (1966), «Анёл над Віцебскам» (1977), «Мастак над Віцебскам» (1977—78, варыянт 1982); серыя літаграфій «Успаміны аб Віцебску» (пач. 1960-х г.) Крыніца сюжэтаў для кампазіцый яўр. местачковых побыт, трактаваны ў наіўна-паэт., гратэскна-сімвалічным, іранічна-фантаст. духу. Яны вылучаюцца жывапісным тэмпераментам, эмацыянальнасцю і пластычнай выразнасцю, сакавітым колерам і адначасова мяккім лірызмам...

# Год Янкі Купалы працягваецца

## 100 гадоў першаму выступленню Янкі Купалы ў беларускім друку (верш "Касцу")

У гэтым годзе мы святкуем 125-годдзе з Дня нараджэння славутага беларускага песняра Янкі Купалы. Неабходна адзначыць, што гэта не адзіная юбілейная дата ў жыцці і



*1904 г.*

творчасці паэта. 100 гадоў таму адбылося яго першае выступленне маладога паэта ў беларускай прэсе. З 1906 г. Купала рэгулярна дасылаў свае вершы ў газету "Наша ніва", якая была па тым часе выбітным нацыянальным выданнем, што адлюстроўвала нацыянальныя і сацыяльныя інтарэсы беларуса, усе яго перажыванні і адчуванні.

11 траўня 1907 г. у газеце "Наша ніва" быў надрукаваны верш "Касцу". І газета стала сапраўднай калыскай Янкі Купалы-паэта, таму што адкрыла сваім чытачам новае імя. Верш "Касцу" надрукавалі на першай старонцы, як публікацыю-візітоўку. А верш быў сапраўды годны гэтага.

**КАСЦУ**

Стукі, стук, стук, малаток!  
Кляпі коску, мужычок,  
Кляпі востранька сваю,  
А я песеньку спяю.  
Гоп, гоп, гоп!  
Я табе спяю.

Быў даўней народ хітрэй,  
Не знаў стрэльбаў,  
дык аей!  
Коскі шаблямі былі,  
Ваяваць з імі ішлі.  
Гоп, гоп, гоп!  
Ваяваць ішлі.

Касу ў шыйцы адагне,  
І насадзіць, і махне;  
Смерць таму,  
хто не сышоў:  
Касой рэзалі ўрагоў.  
Гоп, гоп, гоп!  
Рэзалі ўрагоў.

І гарматаў быў не страх,  
Грамада вялікі гмах:  
Адзін ляжа, сто ідзе,  
А хто ж роўны грамадзе?!  
Гоп, гоп, гоп!  
Роўны грамадзе?!

Дык і ты касу вастры,  
І так хутка —  
раз, два, тры!  
Ідзі з ёю на вайну,  
А я йначай пець пачну.  
Гоп, гоп, гоп!  
Пець інакш пачну.

На вайну з травой ідзі,  
Касі гладзенька, глядзі!  
Перуны, грымоты б'юць,—  
Ты касі, адважным будзь.  
Гоп, гоп, гоп!  
Ты адважным будзь.

Пяюць птушкі пад акном,  
Лепшай долі  
даўно жджом...  
Ну, досць коску  
ўжо кляпаць,  
Час з калодкі уставаць.  
Гоп, гоп, гоп!  
Час ужо ўставаць!  
[1907]

Янка Купала ішоў да свайго народу са словамі праўды і любові разам з газетай "Наша ніва", заклікаў народ на змаганне, падтрымліваў яго веру і надзею на лепшую будучыню. І народ пачуў песняра.

У вершы Янка Купала звяртаецца да мужыка, якому і адрасуе гэты верш. А далей прыгадвае мінуўшчыну, калі сяляне, ідучы на бітву, з кос шаблі рабілі і імі "рэзалі ўрагоў". Тут выразна выяўляецца развіццё рэвалюцыйнай ідэі пра неабходнасць згуртавання працоўнымі сваіх радоў, каб здабыць перамогу над ворагам.

У сваім вершы "Касцу" паэт яскрава паказвае касьбу – адну з самых цяжкіх і па-свойму небяспечных работ селяніна. На касьбе выпрабоўваліся сіла, спрыт, здольнасць вясковых хлопцаў і мужыкоў. У час касьбы здараліся і няшчасныя выпадкі.

Паэт малюе падрыхтоўку да касьбы – кляпенне касы. І тут жа ён паказвае, што каса – гэта не толькі працоўная прылада. З даўніх часоў яе выкарыстоўвалі сяляне як зброю для змагання за свае правы і свабоду.

Глыбінная ідэя верша дае зразумець, што касьба-праца і касьба-вайна рэчы па-сутнасці тоесныя, бо патрабуюць гарту, сілы, удзелу шырокіх мас народу. І тое і другое патрабуюць аб'яднання ў грамаду, бо толькі так справа ідзе спрытна і паспяхова і вайна вядзецца да перамогі.

Пасля публікацыі верша "Касцу" Янка Купала адразу ўключыўся ў агульную працу з нашаніўцамі па беларускаму адраджэнню. Тут ён вызначыў для сябе адну з цэнтральных тэм творчасці – тэму Бацькаўшчыны, станаўлення дзяржаўнасці Беларусі. У паэта нараджаліся вершы пра чалавека працы, пра сапраўднага гаспадара на зямлі, вершы пра родны край.

Газета "Наша ніва" стала своеасаблівай "бабкай-павітухай" для Янкі Купалы. У Янкі Купалы былі цесныя кантакты з гэтым выданнем, з якім ён не толькі пастаянна супрацоўнічаў, але і якое пэўны час рэдагаваў. Гэтае супрацоўніцтва было вельмі плённым і адыграла выключную ролю ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці і развіцці нацыянальнай самасвядомасці.

*Марына Багадухава.*



Hod DRUHI. Wilnia, 11 (24) maja 1907 r. № 18.

# Nasza Niwa

Pierszaja Biełaruskaja Hazeta z Rysunkami.

Wychodzić raz u tydzień polskimi i ruskimi literami.

Adres redakcii i administracii: Wilnia, Zawalnaja wulica № 30.

Redakcija i Kantora Naszaje Niwy pieramieniła kwateru i pamieszczajecca na Zawalnaj wulicy (roh Trockaj) dom № 30.

## KASCU.

Janka Kupała.

*Wilnia 11 (24) maja.*

## Не загаснуць зоркі ў небе

"Лепшы помнік яму –  
нашы сэрцы і яго песні, што жывуць у іх "  
*Уладзімір Караткевіч.*

**Моладзь БНФ прыняла актыўны ўдзел у святкаванні 125-гадовага юбілея класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы.**



7 ліпеня ў сталічным скверы Янкі Купалы маладзевыя актывісты ўсклалі кветкі да помніка, прачыталі свае ўлюбёныя творы песняра і падсумавалі вынікі конкурсу на лепшы верш-прысвячэнне Янку Купалу.

Пераможцамі літаратурнага конкурсу сталі Ніна Сакава са Свіслачы і Анатоль Немцаў з Менска. Яны атрымаюць дыскі з фільмамі, перакладзенымі на беларускую мову, а таксама кнігу маладога беларускага паэта Андрэя Хадановіча з серыі " Кнігарня Нашай Нівы" – "Сто лістоў на tut .by".

Падчас святочнай імпрэзы каля помніку Янку Купалу дзяжурылі супрацоўнікі міліцыі. Міліцыянты ласкава папрасілі маладзёнаў "добра сябе паводзіць, не хуліганіць і не пакідаць пасля сябе смецце".





Таксама да 125-годдзя пісьменніка Культурніцкай камісіяй Партыі БНФ выдадзены папярэдні наклад кружэлак са зборкай кампазіцый, выкананых на вершы Янкі Купалы. У праекце прадстаўлены Зміцер Бартосік, Данчык, Уладзімір Мулявін і "Песняры", Тэатр беларускай драматургіі, гурт "Рострa", Лявон Барткевіч і праект "Я нарадзіўся тут", якія выкарысталі ў сваёй творчасці такія вершы, як "Я мужык-беларус", "Мая малітва", "У вырай", "Шумныя бярозы", "Не загаснуць зоркі ў небе (Нашай Ніве)" і інш. Дадзены дыск можна ўжо зараз набыць за сімвалічны кошт на сядзібе Партыі БНФ.

*Адам Птушка,*  
*паводле Прэс-службы*  
*ПБНФ.*



# Запалі ў сабе Сонца

22 чэрвеня 2007 г. у дыска-клубе "ФЭСТ" адбылася імпрэза (канцэрт) "Запалі ў сабе Сонца", прысвечаная 125-годдзю з дня нараджэння Я.Купалы, арганізаваная Салігорскай гарадской арганізацыяй ТБМ з рэжысёрскай падтрымкай Смалюговай Вольгі.

Канцэрт распачаўся з тэатралізаванай мініяцюры (літаратурна-музычнай кампазіцыі) на вершы Я. Купалы: "Пчолы", "З летніх малюнкаў", "На вуліцы", "Улетку". Такая падача творчасці класіка была выкарыстана ў спробе зняць з Купалы "школьны штамп", паказаць яго творчасць мадэрнова. Было заўважана па гледачах, што такой інтэрпрэтацыі вершаў яны не чакалі, гэта ім спадабалася.

Да святкавання ўгодкаў была далучана свята Купалле. Таму наступным нумарам на фэсце быў танцавальны нумар юнакоў і дзяўчат, задумала танец сябра ТБМ Вольга Клязовіч.

Музычная частка была прадстаўлена сталічным фальклорным гуртом "Кудмень" і неа-фольк, фольк-рок гуртом "Рокаш".

"Кудмень" – маладзёвы фальклорны гурт фальклкклуба пры Беларускай акадэміі мастацтваў. Гурт спявае абрадавыя, каляндарныя, лірычныя і іншыя беларускія народныя песні. Гурт займаецца рэканструкцыяй фальклору, танцаў і гульняў. Так і пад час выступлення ў Салігорску "Кудмень" праспяваў шмат песень паралельна ладзячы інфармацыйны расповед пра музычныя інструменты, арганізавалі спрадвечныя беларускія танцы (полькі, падыспан і інш.) і гульні-жарты запрашаючы да ўдзелу гледачоў.

Потым гурт "Рокаш" завёў моладзь, што наведалі канцэрт. Ладзіліся карагоды, танцы і скокі, што запальвала музыкаў. Адчувалася ўзаемасувязь між гледачамі і музыкамі, з гуртом які ўпершыню выступаў на Салігоршчыне, гэта сведчыць аб станоўчай энергетыцы мерапрыемства.

Завяршэннем канцэртнай праграмы стаў імправізаваны джэм-сэйшн між "Рокашам" і "Кудменем".

Хочацца падзякаваць усім удзельнікам імпрэзы: музычным гуртам, людзям якія тым ці іншым чынам спрыялі арганізацыі і правядзенню вечарыны; клубу "Фэст" за прадстаўленае памяшканне.

*Віталь Дзенгілеўскі.*

# Ад "калі ласка" пасвятлелі твары пасажыраў

Кандутарша гарадскога маршрутнага аўтобуса, што ходзіць па галоўнай вуліцы горада, маладжавая жанчына са спакойным тварам, абыходзячы па праходу пасажыраў, гаварыла, падаючы білет і рэшту, не звыклае "пожалуйста", а нашае, роднае – "калі ласка", дапаўняючы пажаданне беларускамоўнай гаворкай. Ад яе слоў твары некаторых пасажыраў пасвятлелі, хтосьці заўсміхаўся, бо не часта яны сёння чуюць роднае, Богам нам дадзенае слова, не толькі ў аўтобусах, а і ў магазінах, на вуліцы, з канцэртных пляцовак. Я падзячыў кандутаршы за яе мілагучнае "калі ласка", дадаўшы, што ёй за такую павагу да пасажыраў павінны даплочваць сёе-тое да месячнага заробку. Яна чула маю заўвагу-падзяку, але не зрэагавала, бо на чарговым прыпынку ў аўтобусе прыбавілася пасажыраў, і трэба было іх абілецыць.

Пазней пазваніў начальніку аддзела пасажырскіх перавозак Слуцкага аўтобуснага парку № 2 Анатолю Віктаравічу Мяцельскаму і паведаў пра пачутае мною ў аўтобусе "шасцёрка", папрасіў назваць прозвішча і імя той кандуктаршы. Літаральна праз некалькі хвілінаў ён адказаў, што гэта была Галіна Фёдараўна Мялешка. Добра было б, каб яе моўная "пазіцыя" у размовах з пасажырамі паслужыла ўрокам для перайманна кандуктарамі ўсіх 22-х гарадскіх аўтобусных маршрутаў, а гэта пераважна маладыя жанчыны, не ўсе ж яны забылі свае моўныя "карані".

Хочацца адзначыць неабыякавасць да роднай мовы самога Анатоля Віктаравіча, які, дарэчы, на ёй нядрэнна размаўляе.

З яго "падачы" у свой час на ўсіх маршрутных гарадскіх аўтобусах рэкламныя шчыты на вокнах і паверх лабавога шкла былі напісаны па-беларуску. А зараз ён актыўна ўзяўся за беларусізацыю дошак-шчытоў з указаннем дакладнага часу прыбыцця аўтобусаў на прыпынках, а іх у горадзе аж 208.

На галоўных вуліцах яны ўжо замацаваны, астатнія будуць напісаны і вывешаны ў бліжэйшыя месяц – два.

Больш таго – Анатоль Віктаравіч мае намер, па просьбе членаў мясцовай суполкі таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, агучваць па-беларуску прыпынкі на галоўных маршрутах аўтобусаў, за што яму шчырая падзяка ад усіх, хто не забыў сваю родную мову.

*Міхась Тычына, сябар Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, пенсіянер.*

# У САЛІГОРСКУ БУДЗЕ АЛЕЯ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Гарвыканкам даў дазвол на яе адкрыццё. Заяўку на гэта падаваў у траўні грамадскі актывіст Аляксей Валабуеў. Праўда, яшчэ не вызначалася месца, дзе будзе пасаджаная гэтая алея — ініцыятары ніяк не могуць сустрэцца з галоўным архітэктарам горада сп-няй Кругловай, каб абмеркаваць канкрэтнае месца.

Закладка алеі запланаваная на восень, бо летам праз надвор'е рабіць гэта нельга. Апроч алеі, мясцовыя дэмакратычныя актывісты збіраюцца ўсталяваць у гэтым месцы шыльду ў гонар Купалы і паставіць лаву, піша *"Наша ніва"*.

# "Белпошта" да 125-годдзя Янкі Купалы




7 ліпеня, у 125-ты дзень народзінаў Янкі Купалы, Міністэрства сувязі і інфарматызацыі краіны ўявяло ў паштовае абарачэнне адмысловы мастацкі канверт. На ім партрэт Песняра, яго родная Вязынка, малюнак паводле твораў, на марцы - будынак музея... Падрыхтаваны канверт выдавецкім цэнтрам РУП "Белпошта". Мастак Мікалай Рыжы. Спецыяльнае памятнае гашэнне прайшло на Менскім паштамце.

# Вуліцы імя Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Гайнаўцы

**Рада Гайнаўкі (Польшча) прыняла рашэнне аб наданні дзвюм вуліцам горада імёнаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

Асабліва прыемна, што падзея адбылася ў год юбілею народных песняроў і адбылася ў горадзе, дзе большасць жыхароў мае беларускую нацыянальнасць і падтрымлівае пастаянную сувязь з этнічнай радзімай. Днямі ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы прайшло свята беларускай культуры. Адбылася выстава твораў народнага мастака Беларусі В. Шаранговіча "Мой родны кут", прэзентацыя відэафільма "Карані" пра жыццё беларусаў у Польшчы, выступленне ансамбля Белдзяржфілармоніі "Купалінка". Адбылося ўзнагароджанне пераможцаў 13-й Усяпольскай алімпіяды па беларускай мове.

*Наш кар.*

# А жыццё такое кароткае

Дыскусія за матчыну мову мяне таксама зачапіла, як і спадара Алеся Яжэвіча. Ён мае рацыю, але мне падабаецца новае пазітыўнае мысленне Людмілы Дзіцэвіч. Ці да твару нам вечна крыўдаваць? З дрэнным будзем змагацца. Усяму добраму – радавацца. А дэпрэсія скарачае жыццё. Асабліва кароткі век у сучасных шаноўных мужчын. І гэта самая вялікая праблема... Як вы думаеце для каго?

**Некалі газета "Праўда" была галоўнай. Вось там я прачытала: "Женщина острее улавливает время,** вбирает то, что предлагает окружающий мир. Но она же из инстинкта жизни острее чувствует его неполадки, внутренне сопротивляется разрушительной силе». Чаму ж гэта жанчыны ўсё болей і п'юць, і смаляць, і дзяцей пакідаюць? Жорсткае грамадства – жорсткія жанчыны. Мода прыйшла на кепкі! А калі ў палітыцы дзейнічаюць толькі хлопцы, не чакайце прыплоду.

Прыслухоўвацца неабходна да жанчын, нават да іх ціхага голасу, які прагучыць нарэшце. У Заслаўі краму назвалі "Прыпынак", і я была ўсцешана адным словам. А пісьменнік Янка Сіпакоў напісаў геніяльную кнігу прыпавесцяў "Тыя, што ідуць" пра вялікую беларускую прагу велічы і незалежнай Рэспублікі Беларусь і гаспадары ў сваёй дзяржаве. Не скажу, каб надта дбайныя. Можна жыць і лепей, як сцвярджае спадарыня Людміла Дзіцэвіч. Вуліца мая, дамы мае. Мова мая, дзеці мае ... І закінутая хата ў вёсцы, неапрацаваная зямля. Хто пажадае, можа дадаць свае прыклады.



Слухаю ваенныя успаміны жанчын і дзіўлюся, калі яны гавораць не толькі пра трагедыю вайны, але і пра шчасце маладосці, кахання. Надзея жыла і спраўдзілася ў тых, хто дажыў да Перамогі. Таму сёння ёсць на свеце мы – грамадзяне жыцця і пра тое, што "сядзець, нічога не робячы, невыносна".

*Яна Трубач.*

**На здымку:** заняткі гуртка ландшафтнага дызайну ў Заслаўі. Жыццё павінна стаць прыгажэйшым.



№ 27 (815) 18 ЛІПЕНЯ 2007 г. НАША СЛОВА

*Мікалай Даніловіч,*
*доктар філалагічных навук, прафесар*

# ГАВОРЫЦЬ НАША ГРОДЗЕНШЧЫНА

**Ужо колькі часу вядзецца абмеркаванне сучаснага стану беларускай літаратурнай мовы. Навукоўцы, выкладчыкі, пісьменнікі, журналісты, аматары роднага слова дзеляцца меркаваннямі, дыскутуюць, выказваюць свае прапановы адносна таго, як захаваць мову, ля вытокаў якой стаялі Купала і Колас, як ачысціць яе ад ненатуральнага і навалачнага, што зрабіць, каб яна зажыла свабодна і паўнакроўна. За гэтым клопатам, які часам ператвараецца ў малаэфектыўную мітусню, мы нярэдка забываемся, што ў нас ёсць яшчэ і дыялектная мова, што ва ўсе часы значэнне яе было выключна вялікім. Дзякуючы ёй беларусы вылучыліся ў самастойны этнас, склалася беларускае пісьменства ў Вялікім Княстве Літоўскім, славуты Скарына зрабіў першыя пераклады Бібліі. Дыялектная мова спарадзіла сучасную літаратурную мову і цяпер застаецца надзейным яе донарам.**

**Як пачуваюць сябе беларускія гаворкі сёння? Якія працэсы адбываюцца ў іх жывым арганізме? Што іх чакае ў будучым? На жаль, гэтыя пытанні мала каго цікавяць і хвалююць. Навукоўцы-дыялектолагі, якіх у Беларусі на пальцах пералічыш, займаюцца пераважна сістэматызацыяй і асэнсаваннем таго фактычнага матэрыялу, што сабраны ў XX стагоддзі. Новыя палявыя даследаванні амаль не праводзяцца, няма і агульнай праграмы іх ажыццяўлення.**

**З прычыны актыўнай міграцыі насельніцтва, а таксама пад уздзеяннем рускай мовы адбываецца разбурэнне дыялектных сістэм, размыванне межаў груп гаворак, архаізацыя моўных з'яў, якія склаліся ў мінулыя эпохі. Традыцыйнай гаворкай у больш-менш чыстым выглядзе карыстаюцца пераважна вясковыя жыхары старэйшага ўзросту. Так званая "трасянка" настойліва асвойвае і сельскую прастору. Гэта наглядна можна бачыць на прыкладзе запісу маўлення аднаго вяскоўца (1996 г.):**

"Я радзіўса дваццаць седмога года. Пашоў у школу, дзе быў пяць лет. Пасьвіў каровы, памагаў дзедушкі работаць, так как у мене ацец памёр маладой – трыццаць пяць лет. Дзедушка посьле аццa пражыў роўно дваццаць лет. Ацец умёр дваццаць пятава апрэля трыццаць дзевятава года. Дзедушка быў маво аццa ацец, а бабушка была мае мамы мама. Вот рас аны пасорылісь зь дзедушкай. Бабушка гаворыць на дзедушку: "Ты дочке аддаў усё золато?" А дзет гаворыць на бабушку: "Можэт ты ўкрала ў меня золато?" Дзет посьле пат печ сматрэць. Дастаў чорную бутылку. Пасматрэў, аказалось усё ў параткі. Я посьле дзеда тожэ палес пат печ, пасматрэць золато. Я дастаў ево, пашчытаў, было підзісят залатых, но я ўсё ўлажыл абратна, так, как яно ляжало. У сорак дзевятым гаду был пажар, у пейсят дзевятым памёр дзет. Куда яно дзевалось, золото, так я і не знаю. Дзедушка нас сматрэл харашо. Мы ему памагалі. Нас было трох брата і адна сястра, меншая. Старшого брата, Сьцёпку, забралі ў Германію, а міне – у парцізаны. Па прыходу с партызан забралі в армію ў сорак чэцьвёртым гаду. І праслужыў в арміі па підзісят первы гот. Служыў сем лет. Прышоў в радной калхос і сразу стаў конюхам. Я очэнь любіў лашыдзей. Прабыў два года конюхам, і мене паставілі брыгадзірам. У підзісят трэцім гаду фтарова сеньцябра. І праработаў да дзевяносто трэцяга года. Цепер я кала пенсіі. Аддыхаю, з бабушкаю вмесьці тружусо".

**Аднак трасянка ў вёсцы пакуль не стала агульнапашыранай. Шмат дзе жывуць яшчэ натуральныя гаворкі. Перад дыялектолагамі паўстае задача іх неадкладнага пісьмовага дакументавання. Гэта важна і для сучаснікаў, і для нашчадкаў. Тое, што не зафіксавана сёння, заўтра можа быць беззваротна страчана.**

**Прапаную чытачам "Нашага слова" асобныя запісы жывога дыялектнага маўлення, зробленыя аўтарам гэтых радкоў, выкладчыкамі і студэнтамі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы ў апошнія 20 гадоў. Звязныя тэксты ілюструюць узоры традыцыйных гаворак усіх семнаццаці раёнаў Гродзенскай вобласці. Матэрыялы размеркаваны паводле геаграфічнага размяшчэння раёнаў у напрамку з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Большасць запісаў ажыццяўлялася з дапамогай магнітафона. Ставілася задача максімальна дакладна перадаць мову інфармантаў на пісьме, нічога не дадаючы і не папраўляючы. Для зручнасці і лепшай чытэльнасці тэксты аформлены не поўнай, а спрошчанай транскрыпцыяй, заснаванай на фанетычным прынцыпе напісання. Па тэхнічных прычынах націскны галосны ў фанетычным слове вылучаецца не надлітарным знакам, а курсівам. Змычны гук |г| перадаецца падкрэсленай літарай г. Кожны тэкст пашпартызуецца: указваецца ўзрост інфарманта, месца і год запісу. З этычных меркаванняў прозвішча інфарманта не называецца.**

**Прапанаваныя тэксты варта разглядаць не толькі як узоры гаворак з іх своесаблівай лексікай, марфалогіяй, сінтаксісам. Гэта абразкі жыцця нашых бацькоў і дзядоў, нявыдуманыя гісторыі, напоўненыя рэальным зместам, народнай філасофіяй і мараллю, шчырасцю і непасрэднасцю. Чытаюцца яны з не меншай цікавасцю, чым мастацкія творы пісьменнікаў.**

*М.А.Даніловіч,*
*доктар філалагічных навук,*
*прафесар.*

1. Вайна была, пагарэлі ўсе. Цяшка было, галадалі. Ціпер во кажуць, што кепскае жыце. Калісь было кепскае жыце. Ціпер жыць можна, кап ні гэта... Пьюць. Мы былі ўсе дзяўчаты. Пяць дзяўчат было. А якое калісьціка што было: ткалі, вязалі, дзерлі, пралі. А я была дзеўкай, і тая, што ў Сьвіслачы, сястра была. Як яна пойдзе, та адзене ўжо мне німа ў чым ісьці. Бо як вясной, плаця панадзяваям, пойдзям. Зімой яна пойдзя, я ў хаце сяжу. Мая мама засталася маладая. Мы ўсё таткам называлі. Я ўсё папа не магу сказаць. А чаму мы так называлі? Татка памёр у сорак сем лет. І я так кажу, усё роўна маёй маме было ляхчэй, чым мне. Я асталася адна, а яна была зь дзецьмі. Ёй мусове было да дзяцей. Не было калі плакаць: былі і велькія, і малыя. Ля, самая малая – два годзікі было. Адно ты туды йдзі рабі, ты туды йдзі рабі. А я сама ўсё раблю. Хто мне зробіць? Ціпер кепска, німа горшай бяды, як старасьць і гады. Ні аказаца. Упраўлюся, іду ў хату – адныя сьцены. Ужо восем лет, а ні магу прывыкнуць адна. Калі яны прыедуць? Вясна, то на лаўку пойдзеш. А ціпер куды? Ну сусетка з работы прыдзе. Ёй трэба ўправіца, ужо ні пойдзеш да яе пасядзець. Дажа кап прыйшла, прыняла п яна мяне, пасядзелі п. Але ш і на рабоце цэлы дзень, і ў хаце трэба рабіць, і хочаца атдыхнуць. Дажа няма куды пасьці, кап пасьці. А ўсё шчэ жду званка, можа хто пазвоніць. У Сашы отпуск у марце. Тыдзень былі яны. Сяргей зь Ленай і Машай зараз робяць. Я ні паеду. Хто будзе ў хаце што рабіць? У мяне чацьвёра сьвіней. Сашы хутка пядзісят лет. На пеньсію пойдзе – будзем калоць. Будзе ўжо што есьці. Ужо будзе ляхчэй. Усё раўно цяшка вёдра насіць. А не дзяржы нічога, і што?.. Трэба хоць крыху калупацца с чым. Чалавек стары – як конь: як адымуць аглоблі, дык упадзе. Трэба рабіць, кап хоць крыху падзержывалі аглоблі. Усё можна купіць, а што сваё, кусочак мяса зварыць... Мне трэба ўсё самой рабіць. Віця памагае, прыедзе, мне сечкі нарэжа. Але што, кажды дзень не наезьдзіш, трэба мне самой рабіць. Ля о, рана ўставаць трэба мне. Гэтага двацацілітровага чыгуна на трыбуху валачы. Мне ніхто ні застаўляя. Гэта я сама сабе работу раблю. Гэта ніцяшка. Кап цяшка было, я п адно парася дзяржала п. Былі маладыя – зусім другое было. Ні сядзелі так у хаце. І да нас хто прыйдзя, і мы хадзілі. І выпівалі на сьвяты. Ні напіваліся так, як ціпер. Вясельлі былі, каравайніцы. Былі, ля, браты і сёстры. Шлі замуш і пяклі ўжо каравас. Ля, гускі пяклі, гускі рабілі. Ляпілі і малыя, і бальшыя. Хто тады тыя цукеркі кідаў – гускі кідалі. Танцы былі. Калісь і вясельле было інцярасьнейшае. Прыгожа адзенуцца і караваі вязуць. Там ужо музыкаў у хаце. Свой каравай, да іх караваяў нясуць. Тады ўжо пьюць. Зранку дахаты прыходзілі. Вясёлае жыця было. І сьпявaласё, і гулялaсё. Гэта ціпер скушна. У мяне сваьцьбы ні было. Сваты прыяжалі, а свацьбы ні было. У сястры старшай была свацьба на Паўла, а я ўжо другога февраля. Хто мне будзе што рабіць, ш чаго было рабіць? Ля, а там, у яго была свацьба. Мне не было ш чым замуш ісьці. Я як падумаю, што ціпер е і што тады было... Ну што мне. Во, яго маці дала воўну, то сястра старшая, што ў Грынках, выткала дывана. І дала яго маці падушку. Бо гэта ішла, што ў Сьвіслачы, хоць было две падушкі, то і забрала адну. Ну пяць чалавек, пяць дзяўчатак. Старшая шла – трэба была падушка. І яшчэ пада мною шла – тожа ўзяла. А мне ўжо... Хто рабіў тады так велізна падушак. Міша з арміі чамадан прывёс, дзесь ішоў з арміі і купіў, ля, дахаты ісьці. То ў той чамадан усё склалі, і с тым замуш пайшла. А ціпер, палянь, колькі ўсяго! Куды іх... Шла адна ўнучка замуш – ёй дала падушкі, другая – ім падавала. Хлопцам падушкі дала. І ў мяне шчэ е. Калісь добра было. І ні сварыліся. Ніхто ні гаварыў, што бедна. А ціпер усё адно трэба за багацтва, кап яго. Нічога багацтва ні трэба. Трэба, кап между сабою добра жылі і адно аднаму ўступалі. О, гэта самае глаўнае багацтва. І кап здароўе было. Я о ш чамаданам пайшла, а ціпер машыну трэба, кап вывесьці гэта. Усё нажываецца.

*Жанчына, 1927 г. н.*
*в. Ражкі*
*Свіслацкага раёна, 2003 г.*

**2.** Нарадзілася я, дзеткі, тут і ўжэ семсят трэйці рок тут жыву. Перш я тады была зусім маладая. Жылі мы з мамай і татам у майго дзеда, бацькавага бацька, яго ўсе называлі Вайтахом. У дзедавай хаці, апрача нас жылі яшчэ два татавы браты ж жанкамі і дзецьмі. Потум мой тато паставіў сваю хатку на выгане, яна ціпер ужэ зусім стала старэнька, разваліласся. Перайшлі мы ў сваю хату. Я была найстарэйшая ў мамы, а яшчэ было шасьцёра малочшых: пяцёра братоў і сястра. Як найстарэйшай, мне такі прыйшлосё найцяжэй, трэбо было памагаць мамі гадаваць малочшых, рабіць у хаці, на полі, бо мама наша была хвора, сама рабіць нічого ні магла. Калісьціка жыця было ні тоё, што ціпер. Як успомню, колькі было работы!.. Жалі сярпамі, гараць трэбо было коньмі, і той лён рвалі, трапалі, пралі і ткалі ўзімою. Я хутка стала рабіць усю бапску работу. Нарабілася за жыця, цяшко было, усяго пабачыла. Алі ціпер усё кепскаё забыласё. І скажу вам, дзеткі, хоць і цяшко жылосё, алі ш весялей было калісьці ў вёсцы. Ціпер стало зусім сумно, нідзе ні пачуеш песьні. А калісьціка было много хлопцаў, дзяўчат, у горад ніхто ні ўцякаў. Бывало, як зыдуцца вечарам на танцы, весяло. Узімою дзяўчата зыдуцца на вячаркі с прасьніцамі, с калаўроткамі, разам пралі і песьні сьпявалі. Я натто любіла сьпяваць і галасістай была, як была маладая. Каля нашай хаты была студня, глыбокая такая, аш на трынаццаць катак. То я, бывало, выйду ўвечары на двор, перагнуся галавою ў студню ды як завяду якую песьню, а эха далёка разносіцца. Учуюць хлопцы на даліні і думаюць, што гэто ўжэ дзяўчата на гарэ пазьбіраліся ды сьпяваюць, і яны ідуць ужэ сюды. Тады я вазьму ды схаваюся, яны абыдуць усю вёску, а дзячат так нідзе і німа. Стала і я хадзіць зь дзяўчатамі на вячаркі.

*Жанчына, 1922 г. н.*
*в. Крапіўніца*
*Свіслацкага раёна, 1995 г.*

3. Мой бацька быў самы старшы. Яго бацька (мой дзет) рана памёр. Уся работа на яго. Рабіў зямлю. Да таго навучыўся калёсы рабіць. Зямлі німного было, мусялі зарабляць. Тады што, аддаў адну сястру замуш, тады другую. Трэбало вясеслё зрабіць. Трэбало карову ў пасазе даць. Пошля сам жаніўся. Пяцёра дзяцей было. Адно ўмярло, мусі, з восім месяцаў было. Цяшко было. Пошля адзялілі. Хату строіў, хата была малая, ні было дзе жыць. Зрабілі прыстройку і жылі апрыч, толькі пад аднаею стрэхай. Пошля аднога брата спаралізавало. Другі па п'яні ў петлі зайцавы ўлес, ногі аднялі, зрабілі пратэзы. Наўчыўся за краўца, шыў харашо. Па хазяйству мусяў памагаць старшы. Свая сям'я стала падрастаць. Зямлі мало было. Дзяржалі кароў, сьвіня, быў конь. Калі прададуць, калі купяць. Сваго ні пракармілі п. Трэбало купляць і карміць. Ат сваго дзеда наўчыўся рабіць калёса. Езьдзіў у лес, купляў мацяр'ял, тачыў калоткі. Такая такарня на ногу. Расцом вырабляў калоткі. Тады што? Шпіцы перш апчэсваў, тады стругаў. Усё рабіў уручную, на таком слоні, дзе стругаць шпіцы да каляса. З дубу шпіцы былі, з беразіны. Як дылі на званчакі апчэсваў сякерай, а потум выпілоўваў званчакі ручною пілкай. А баба паліла печ два разы на дзень, сушылі ўсей мацяр'ял у печы. Рас выкідалі, пошля зноў. Бацька ўсё рабіў. Першы сон перасьпіць і зноў устае. У слон засаджваў дзераво, з аднаго боку дзераво, з дргого вяроўка, і ўручную пілаваў. Сані рабіў. Ціпер мэблямі застаўляюць хату, а раней – лава на ўсю хату, слон і маленькія слончыкі сядаць. Як абет, стаўлялі велькаго столка каля стала, усім маленькія столачкі. Пасядзямо і ямо. Міскі гліняныя, чорныя, лошкі дзеравяныя. А мамін дзёт рабіў лошкі дзеравяныя, верацёна тачыў. Баба прала на калаўротку, а дзеці на верацёнах пралі. Дзет сані рабіў, загатоўліваў мацяр'ял. З дубу палазы вычэсваў. Езьдзілі на вываску, на базар вазіў у Ваўкавыск дваццаць другого, Рось – дзісятаго, Зэльва – трэцяго чысла. З базара збожо прывозіў. Што за грошы продаў, грошы ўсе пушчаў на пражыцё. Хоць было мало зямлі, але біс хлеба ні былі дзеці, ні галадалі й самі, хватало ўсяго. Рабілі ат сьцямна да сьцямна. Як біс працы, німа каляцы. Як зачалася вайна, дзеці сталі рабіць. Старшы за камяншчыка, пры ём астатнія наўчыліся. Пасьля вайны зрабілі хату вельку, пол, тры комнаты. Дзеці паўрасталі, усе тожа страіцялямі сталі. Ціперака ўсе ў Польшчы. Старшы мая сваю гаспадарку, пілараму, стальмашню, мельніцу, памятнікі робіць. Усе хаты сабе зрабілі. Усе выяхалі тады, а нас з Гэляю ні пусьцілі, граніцу закрылі. Ціперака тут жывем.

*Жанчына, 1928 г. н.*
*в. Мацвееўцы*
*Ваўкавыскага р-на, 1993 г.*

(Працяг будзе.)




# Ці заступіцца пракуратура за Генплан Гародні?

*Адказ на пытанне відавочны і выцякае з перапіскі паміж старшынём ТБМ Алегам Трусавым і Генеральнай пракуратурай. Пракуратура зоймецца Генпланам Гародні, калі здолее разгледзець парушэнні ў яго выкананні. Гарадзенскія ўлады сцвярджаюць, што яны Генплан не парушаюць. Грамадскасць лічыць зусім інакш. Нядаўна ў спрэчку ўмяшаўся сам складальнік гэтага Генплана (2003 г.) і двух папярэдніх (1973 і 1988 гг.), заслужаны архітэктар Беларусі, былы галоўны архітэктар Гарадзенскай вобласці, а зараз галоўны архітэктар РУП "БелНДІгорадабудаўніцтва"* ***Уладзімір Рыгоравіч Ісачэнка****. Прапануем фрагменты яго інтэрвію газеце "Труд" ад 12.07.2007 г.*

- У Генеральным плане Гародні, распрацаваным нашым інстытутам і зацверджаным у 2003 годзе прэзідэнтам Беларусі, вызначана зона адмысловага дзяржаўнага рэгулявання - гістарычны цэнтр (ГЦ). Ён складае ўсяго каля 400 гектараў, гэта значыць 5 адсоткаў ад гарадской тэрыторыі. Калі мясцовым службоўцам захацелася стварыць нешта ультрановае, эпахальнае, хай дзеюць за межамі ахоўнай зоны. Яшчэ ў 1970-х прапаноўвалася сфармаваць новую адміністрацыйную плошчу не ў ГЦ, а ў раёне вуліц Віленская, Цагляная. Тады фінансавыя магчымасці не дазвалялі правесці раскопкі і аднаўленне **палаца Радзівілаў, Фары Вітаўта**, і мы захавалі іх для гісторыі, закрыўшы астаткі зямлёй да лепшых часоў і стварыўшы ў цэнтры два скверы. Мяркуючы ж па тым, якія каласальныя сродкі ўкладзеныя ў цяперашнюю рэканструкцыю (аж да натуральнага паліраванага граніту), зараз грошы з'явіліся. Але замест таго, каб аднавіць або хоць бы захаваць велічныя помнікі, зрабіўшы плошчу пешаходнай, як гэта загадана Генпланам, праезджую частку на ёй пашырылі, высяклі дрэвы, агаліўшы прымітыўную пасляваенную забудову. Ужо не гавару, што пасля рэканструкцыі яна перастала адпавядаць сапраўдным гарадзенскім маштабам.

***- Растлумачце сваю пазіцыю адносна пабудовы новага моста і пашырэння старога.***

- Новы мост, па-першае, дазволіць абыйсціся без рэканструкцыі старога, а, па-другое, разгрузіць яго, палепшыўшы транспартныя сувязі па горадзе. Вядома, гэта дарагое задавальненне, аднак зусім не адзіны шлях рашэння праблемы транспартных перагрузак у цэнтры. Можна ўзгадніць пашырэнне старога моста (толькі не трэба, як плануецца, падымаць яго і руйнаваць гістарычны масток на Дарвіна) пры ўмове, што перш будуць пабудаваныя ўчасткі вуліц, якія накіруюць бясконцыя транспартныя плыні ў аб'езд цэнтра, як гэта і прадугледжвае Генплан.

Яшчэ ў 1972 годзе мною была прапрацаваная схема пракладкі 250-мятровага тунэлю ад Новага замка да сінагогі пад засыпанай вуліцай Падзамкавай (Падзамча). Каштуе гэта ў дзесяткі раз менш, чым новы мост і пабудова 4-палоснай "парадней" вуліцы на гістарычнай плошчы. Пры гэтым ўдаецца захаваць унікальны гістарычны ландшафт, звязаўшы паміж сабой розныя раёны горада. Аднак гэтыя прапановы адкідаюцца. Замест таго, каб пабудаваць аб'езды, **збудавалі кольца вакол танка, пашырылі Віленскую**... Зараз ля Савецкай плошчы збіраецца яшчэ больш транспарту, чым раней. Сёння ад праезджай часткі да вокнаў гістарычных будынкаў па вуліцах К.Маркса і Кірава не больш 3-4 м. Потым дзівіцца, чаму гэтак імклівa расце лік захворванняў у мясцовых жыхароў.

Адмовіўшыся ад праекту тунэлю, пачалі прабіваць транзітную вось Горкага - Гарнавых, што прывядзе да засыпання часткі поймы і самой рэкі Гараднічанкі. Ад маляўнічай даліны нічога не застанецца.

***- Вашы апаненты сцвярджаюць, што зрабіць цэнтр пешаходным немагчыма.***

- Хай уважліва прачытаюць Генплан, Дэталёвы план рэгенерацыі ГЦ. Вуліца Сацыялістычная ў парадку выключэння можа застацца ппраезджай, а вось Кірава, К. Маркса, Баторыя, падобна да Савецкай, павінны стаць пешаходнымі. Пры гэтым у Генплане прадугледжаны рух па іх маламернага абслугоўвання транспарту, які дастаўвіць прадукты, завязе мэблю і г.д. У Цярнопалі я бачыў усё гэта 40 гадоў назад.

***- Дагэтуль не апублікаваныя рашэнні, прынятыя ў Гародні на выязным красавіцкім пасяджэнні Беларускай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры. Быццам бы, зацверджана "рэканструкцыя" гістарычнай забудовы канца 19 - пачатку 20 стагоддзя з узвядзеннем на іх месцы фешэнэбельных асабнякоў для багацеенькіх...***

- Абуральна, але супрацоўнікаў Белндіпгорадабудаўніцтва на пасяджанне нават не запрасілі. Думаю, наўмысна, ведаючы аб нашай непрымірымай пазіцыі ў адносінах да іх задумаў, у корані разбежных з Генеральным і Дэталёвым планамі.

Увесь ГЦ складаецца з 28 архітэктурна-ахоўных **зон. Сотні хатак, відавочна,** аб якіх вы гаворыце, самі па сабе ніякай архітэктурнай каштоўнасці не маюць, але яны знаходзяцца ў комплексе неацэнтай гістарычнай забудовы. Дэталёвы план рэгенерацыі ГЦ 2005 года дае іх жыхарам права мадэрнізаваць хаты, скарыстоўваючы сучасныя патрабаванні да цеплазабеспячэння і каналізацыі. Але пры гэтым павінны быць захаваныя фасады якія выходзяць на вуліцу, маштаб і характар будынкаў, што фармуюць вуліцу.

***- Чаму так адбываецца?***

- Трэць стагоддзя назад, быўшы галоўным архітэктарам Гарадзенскай вобласці, я стварыў архітэктурную службу з 272 чалавек. У Абласным кіраванні архітэктуры ў Гародні апрача 12 штатных супрацоўнікаў яшчэ больш за 30 чалавек працавалі на гасразлікавай аснове.

Сёння шматлікія архітэктурныя службы зведзеныя да адзінак або зусім ліквідаваныя. У кожным з адміністрацыйных раёнаў Гародні было па дасведчаным архітэктару. Сёлета іх панізілі па пасадзе і зарплаце, вымусіўшы звольніцца. Выходзіць, што наша служба не патрэбна, мы камусьці замінаем. Старыя кадры сыйшлі, а новыя, мабыць, не ўспрынялі яшчэ гістарычных каштоўнасцяў горада і не могуць прыняць адпаведныя праектныя рашэнні. Вось вам і вынік. Сёння шматлікія міністэрствы, ведамствы, прыватныя асобы маюць у розных частках Гародні свае інтарэсы, а мясцовыя ўлады ідуць ім насустрач, жывучы выключна сённяшнім днём.

Захацелася ім, нягледзячы на пратэсты гараджан, аўтарытэтных гісторыкаў і нас разам з імі, высячы 400 дрэў у скверах вакол Савецкай плошчы, і скверы высякаюць. З падачы галоўнага архітэктара Гародні і галоўнага адмыслоўца па ахове гістарычнай спадчыны выканкам сцвярджае, што ўсе працы на плошчы вядуцца у поўнай адпаведнасці з згаданым Дэталёвым планам. Хоць у ім чорным па белым напісана аб захаванні ландшафтна-рэкрэацыйных ахоўных зон цэнтра горада.

***- Гарадзенскія ўлады і архітэктары паўтараюць, што ажыццёўленыя пераўтварэнні - толькі першы этап рэканструкцыі, разлічаный Генпланам на 20 гадоў.***

- Немэтазгодна выкарыстаныя ў праведзенай "рэканструкцыі" сродкі, калі б іх накіраваць на рэалізацыю Генплана, дазволілі б ужо сёння вырашыць галоўную задачу, пастаўленую перад намі прэзідэнтам: вызваліць цэнтр ад транзітнага транспарту, стварыць значную частку прадугледжанай сістэмы развязак.

А так на бліжэйшыя гадоў 50 (а, можа, і на стагоддзі) гарадзенскі гістарычны цэнтр, разынача Беларусі, страчаны. Хто зараз возьмецца руйнаваць кіламетры каменю і пліткі, пакладзеныя не цалкам разумна?

***- Што ж далей?***

- Каб выратаваць цэнтр ад транспартных плыняў, трэба ў першую чаргу пабудаваць тунэль па былой вуліцы Падзамча да былой Кармеліцкай, аб чым ужо гаварылася ў нашай гутарцы.

***Газета "Труд" за 12.07.2007 г.***



*Уладзімір Рыгоравіч Ісачэнка*



*Грамадскае аб'яднанне*
*"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*
*220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11, разліковы рахунак № 3015212330014 у Гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка" код 764*

*21 чэрвеня 2007 г. № 106*

*Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь*
***Сп. П. П. Міклашэвічу***

*220050, г. Мінск,*
*вул. Інтэрнацыянальная, 22*

**Аб парушэнні Указа Прэзідэнта № 332 ад 28 ліпеня 2003 г.**

**Паважаны Пётр Пятровіч!**

Улады горада Гродна пачалі актыўна знішчаць старажытны цэнтр унікальнага горада, які з'яўляецца ўнікальным будаўнічым ансамблем XII - XX стст.

Аб фактах знішчэння зараз амаль кожны дзень паведамляюць сродкі масавай інфармацыі (гл., напрыклад, "Наша слова" № 22 ад 6 чэрвеня 2007 г. і "Літаратура і мастацтва" № 23 - 24 ад 15 чэрвеня 2007 г.).

Знікаюць старыя будынкі, унікальны культурны пласт у гістарычным цэнтры горада, пад пагрозай стары мост праз Нёман. Пры гэтым ходзяць цьмяныя чуткі пра нейкіх багатых інвестараў з Расіі, якія маюць намер пабудаваць на месцы гістарычнай забудовы "элітнае" жытло. Падаецца, што гэта справа нашага народнага кантролю.

У свой час Кіраўнік беларускай дзяржавы падпісаў Указ № 332 ад 28 ліпеня 2003 г., які прадпісвае захаванне гісторыка-культурнай спадчыны Гродна. Аднак улады горада паводзяць сябе так, быццам гэтага Указа не існуе. У сувязі з гэтым просім Вас праверыць, як дзеянні уладаў Гродна па знішчэнні нашай гістарычнай спадчыны суадносяцца з дзеючым беларускім заканадаўствам, у прыватнасці, з Указам № 332.

**З павагай,**
**Старшыня ТБМ, кандыдат гістарычных навук,**
**адзін з даследчыкаў гістарычнага цэнтра Гродна Алег Трусаў.**



**ПРАКУРАТУРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
*вул. Інтэрнацыянальная, 22*
*220050, г. Мінск, ГСП*
тэл. 226-43-57, факс 226-42-52
206-55-41 226-41-67

**ПРОКУРАТУРА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
*ул. Интернациональная, 22*
*220050, г. Минск, ГСП*
тел. 226-43-57, факс 226-42-52
206-55-41 226-41-67

04.07.2007 № 0702/207-2001

На № ________ от ________

**Прокуратура Гродненской области**

**Председателю общественного объединения**
**"Общество белорусского языка**
**им. Ф. Скорины"**
**Трусову О. А.**
**ул. Румянцева, 13, г. Минск**

Направляется обращение председателя общественного объединения "Общество белорусского языка им. Ф. Скорины" Трусова О.А. по вопросам сохранения зданий, являющихся историко-культурным наследием, в г. Гродно для рассмотрения по существу.

О результатах рассмотрения прошу уведомить заявителя.

Приложение: обращение на 1 л. в первый адрес.

**Прокурор отдела по надзору за соблюдением прав и свобод граждан М.В.Попова.**

*Памяці Міколы Ермаловіча*

**Здзіслаў Сіцька**

# Па слядах літвы

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Новыя жыхары Панямоння спрычыніліся, безумоўна, да ўзнікнення новых і разбудовы былых гарадоў. Іх дзейнасць спрыяла развіццю гаспадаркі ды ўмацаванню грамадскага ладу нашых княстваў і, урэшце, ператварэнню Навагарадскага княства ў Вялікае Княства Літоўскае. Новая магутная дзяржава не толькі не зведала мангольскага іга, але і здолела аб'яднаць шмат якія землі Падняпроўя, Папрыпяцця, Пабужжа, а цягам часу і далучыць адабраныя ў Залатой Арды абшары, што распасціраліся да Чорнага мора. Безумоўна, ваяры-літва сталі ўздзельнічалі ў абароне крывіцкіх і дрыгавіцкіх княстваў ды ў дзяржаўным будаўніцтве на абшарах Панямоння. Яны заслужана ўвекавечаны ў назве Вялікага Княства Літоўскага*.

Але стварэнне нашай старажытнай дзяржавы ўсё яшчэ звязваюць з міфічнымі жамойцкімі князямі, пададзенымі ў некаторых Літоўскіх (Беларуска-літоўскіх) летапісах, хоць даўно ўжо даказана, што гэтыя асобы выдуманыя. Яшчэ ў пазамінулым стагоддзі вядомы польскі даследнік Аляксандар Брукнер у кнізе „Старажытная Літва. Народы і багі" напісаў пра паходжанне імёнаў тых жамойцкіх князёў: „Так павандравалі Швянтарог, Кернос, Кукавойціс ды іншыя з тапаграфіі ў генеалогію" *(Brockner A. Staroïytna Litwa. Ludy i bogi. Olsztyn, 1984. C. 71)*. Імёны ж вядомых з архіўных дакументаў літоўскіх князёў – заходнеславянскага і заходнееўрапейскага паходжання *(Урбан Паўла. Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў. С. 53-67)*.

Не выпадкова ж храністы Лівонскага ордэна называлі безыменных жамойцкіх правадыроў кунігамі (кунінгасамі), што пазней перанялі і некаторыя савецкія гісторыкі, зрабіўшы іх „ваяўнічымі кунігасамі". Лексема „кунігас", дарэчы, не балцкага, а германскага паходжання: прагерманскае *kuningaz, гоцкае *kuniggs ад kuni 'род', адкуль і фінскае ды эстонскае kuningas 'кароль' *(Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. Т. II. М., 1967. С. 266."Die kunige von Samaiten" Die Livlandische Reimchronik von Dittlieb von Alnpeke. Reval, 1848. C. 116)* 'жамойцкія кунігі' - так у Лівонскай Рыфмаванай хроніцы названыя безыменныя родавыя старэйшыны жамойтаў. Польскі гісторык Ю. Ляткоўскі, цытуючы пададзены радок згаданай хронікі, дадае, што крыжацкі храніст Пётр з Дусбурга называе іх ужо то nobilis ('знатныя'), то reguli ('каралькі'). Паводле гэтага храніста, на Жмудзі панавала „70 reguli" *(Latkowski J. Mendog — kryl litewski. Krakow, 1892. C. 3)*. Іншы нямецкі храніст Пасільге называе іх „die edelsten der lande czu Samayten" *(Тамсама)* ('старэйшыны зямлі жамойтаў'). Эдэлінгі, альбо нобілі, — гэта племянная знаць. Як вынікае з хронік, іх нельга выдаваць нават за жамойцкіх князёў, не кажучы ўжо пра атаесамленне гэтых кунігаў, нобіляў, эдэлінгаў з князямі літвы. Таксама нельга атаесамляць словы „літва" і „літоўцы". Гэта не сінонімы, таму што азначаюць розныя паняцці.

Лексема „літоўцы", якой называюць сучасны народ (сучасная саманазва lietuviai) прыбалтыйскай рэспублікі Lietuva (Летува), у летапісах і хроніках не сустракаецца. Усюды згадваецца толькі літва.

## Літва – прафесійныя ваяры

Літва. Які сэнс гэтага слова? Якое паняцце яно абазначае? Перш чым спрабаваць шукаць адказу на такія пытанні, згадаем некаторыя старонкі агульнавядомых хронікаў ды летапісаў. (Шматлікія згадкі пра літву ў "Хроніцы літоўскай і жмойцкай" *(ПСРЛ. Т. 32. М., 1975)* ды ў "Беларуска-літоўскіх летапісах" *(ПСРЛ. Т. 35. М., 1980)* не падаем.)

1044 год: "*ходи Ярослав на* ***литву***" (Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов. *(М., Л-д, 1950. С.181)*; "*...приходи* ***литва*** *къ Колузе" (ПСРЛ. Т.VIII. С. 112)*; „*...повоеваша* ***литва*** *около Торжку...* " *(ПСРЛ. Т.34. М., 1978. С. 92)*; „*А в те поры как* ***литва*** *была под Стародубом...* " *(ПСРЛ. Т. 34. С. 25)*; „*...бишася* ***литва*** *с смолняны под градом под Мстиславлем" (ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 121)*; „*...а псковичи под городом под Котелном* ***литвы*** *и татар побили много" (ПСРЛ. Т. 37. С.41)*; „*...а* ***литва*** *побеже, и мало утече за Тросну реку..." (ПСРЛ. Т.37. С. 51)*; „*Они же сретошася с* ***литвою*** *о реце о Березене и стояша долго время: ни* ***литва*** *за Березыню не лезет к москвичем, ни москвичи к* ***литве***" *(ПСРЛ. Т. 37. С. 53)*; „*...и погналися вслед за* ***литвою****. И догонивши билися з* ***литвою***" *(Кройники о великихъ князех литовъскыхъ./ / Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М. 1962. С.217)*; "*В лето 6713 (1207)...* ***литва*** *же и ятвезе воевахоу и повоева же Тоурискъ" (ПСРЛ. Т. 2. С.721)*; "*В лето 6733 (1225)... Тое же зимы воеваша* ***литва*** *Новгородскую землю...*", "*В лето 6753 (1245) повоеваша* ***литва*** *около Торжку и Бежицы" (ПСРЛ. Т. 34. М., 1978. Пискаревский летописец. С.84, 92; 1246 г.)*: "*придоша* ***литва*** *и воеваша около Пересопнице (ПСРЛ. Т. 2. С. 797; 1247 г.)*: "*воеваша* ***литва*** *около Мелнице" (ПСРЛ. Т. 2. С. 798)*. Часам гэтым ваярам давалі адпор, як то, прыкладам, падае пад 1249 г. Усцюжскі летапіс: "*князи руские на Протве* ***литву*** *побили" (ПСРЛ. Т. 37. С. 30)*.

Але літва не толькі нападала на чужыя землі. Надараліся і міжусобіцы. Братазабойчыя сутычкі выкарыстоўвалі суседзі, якія ладзілі вайсковыя паходы „*на* ***литву****, на поганее, яко сами имеють рать...*" *(ПСРЛ. Т.2. С. 815)*. А тыя ваяры-літва, што прайгравалі, вымушаныя былі шукаць сабе новае прыстанішча, як то і зрабіў князь Даўмонт. „*Побишася* ***литва*** *межи собою, и Домант прибеже с дружиною своею во Псков и крестися...* (ПСРЛ, *СПб., 1889, т. 16, с. 54)*; "*Тогда же прибегоша в Псков* ***поганыя литвы*** *триста семей съ женами и детми и крестишася...*" *(„Сокращенная литовская летопись")*. Цыт. паводле: *(Охотникова В.И. Повесть о Довмонте. Л-д, 1985. С. 200)*.

Дзіўна чытаць у старажытнарускім творы „Аповесць пра Даўмонта" (ім пачынаюцца пскоўскія летапісы) пра „поганую литву". Гэтае словаспалучэнне звязваюць з ваярамі князя Даўмонта, які пасля паразы ў міжусобнай барацьбе з Навагардскім князем Войшалкам уцёк у Пскоў. Пасля ўжо сам „*благоверный и храбрый князь Домант... нападе... и победил супротивных врагов* ***поганой литвы*** *шестьсот" (Тамсама. С. 201)*.

Варта дадаць, што тыя перамажаныя – гэта „князь литовский Герденъ" (дакладней: "Gerdine de Nalse" 'Гердзень з Нальшаў' *(Міндаў кароль Літовії ў дакумэнтах і сьведчаньнях. Менск, 2005. С. 39)* з сваёю дружынаю *(Охотникова В. И. Повесть о Довмонте. С. 201)*, у складзе якой, відавочна, былі ваяры-літва. Чытаем жа ў іншых спісах (копіях) „Аповесці пра Даўмонта", што падчас таго пабоішча "*иная* ***литва*** *истопе во Двине" (Тамсама. С 202)*. Гердзень (Гердэнь), як вядома, быў сынам полацкага князя Давыда Расціславіча ды княжыў у Полацку з 1264 і да 1267 г. *(БелСЭ. Т. III. Мн., 1971. С. 437)*. Што да перамажанай Даўмонтам "паганай літвы" полацкага князя Гердзеня, то не трэба гэтую вестку ўспрымаць, як сведчанне захопу Полацка „літвой" ці вынік пераходу Полацка самахоць пад уладу "літоўскіх князёў", як то падаецца ў БелСЭ: "*Полацкае баярства... пайшло на кампраміс з літоўскімі феадаламі і запрасіла іх у 2-ой пал. 13 ст. у горад" (БелСЭ. Т. 8. С. 485)*. Літва — звычайныя ваяры-найміты, якія, дарэчы, служылі не толькі ў Полацку. Прыкладам, напрыканцы XIII ст. рыжскія ратманы скардзіліся віцебскаму князю Міхаілу Канстанцінавічу, што іх купцоў, якія ехалі „*изъ Витебеска у Смолнескъ, тогды* ***литва изъимали*** *ихъ на пути, у* ***твоемъ*** *городе... и товар отимали в нихъ*" *(Russisch-Livlandische Urkunden, gesammelt von K.E. Napiersky. St. Petersburg. 1868. S. 27)*. Каб жа "літоўскія феадалы" пераняла ўладу ў Полацку, то „літва" магла б абрабаваць рыжскіх купцоў яшчэ ў Полацку, або аберагала б іх. Таксама відавочна, што віцебская „літва" падпарадкоўвалася віцебскаму князю Міхаілу Канстанцінавічу, інакш бы „рыжскія ратманы" не бачылі б сэнсу скардзіцца.

Дарэчы, роля „літвы" як адмысловых ваяроў-наёмнікаў выразна выявілася падчас адной вядомай падзеі. На пачатку верасня 1380 г. князь Андрэй Полацкі, сын Альгерда, вялікага князя ВКЛ, прывёў на Кулікова поле сваю „літву" — закаваных у латы ваяроў. Такія ж шыхты падрыхтаваў ягоны брат Дзмітры Старадубскі. Маскоўцы, а пасля, пэўна ж, і манголы, былі ўражаны рыштункам ды выглядам войска братоў Альгердавічаў. Невядомы ўдзельнік Кулікоўскай бітвы, якога прызнаюць за аўтара „Задоншчыны"*, у захапленні, відаць, перабольшыў колькасць іх ваяроў. Так, у „Слове о великом князе Дмитрее Ивановиче и о брате его князе Владимере Андреевиче яко победили супостата своего царя Мамая" – фактычна, копіі „Задоншчыны", — чытаем гутарку братоў Альгердавічаў: „*Выедем, брате, в чистое поле и посмотрим своих полков, сколько, брате, с нами* ***храбрые литвы****. А* ***храбрые литвы*** *с нами 70 000 окованые рати" (В.П. Адрианова-Перетц. „Задонщина". // ТОДРЛ. Т. V. М. – Л-д, 1947. С. 200)*.

Варта дадаць, што да поля Кулікова ішоў, як вядома, яшчэ адзін Альгердавіч — Ягайла, вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага, нібыта, на дапамогу Мамаю. Ці былі ў ягоным войску ваяры-літва? Безумоўна, былі: нельга ж уявіць войска вялікага князя літоўскага без гэтых ваяроў. Літва працягвала служыць вялікім князям ВКЛ яшчэ амаль два стагоддзі. Пасля некаторым, што трапілі ў палон да маскоўцаў, давялося перайсці на службу да іншага гаспадара ды пачаць ваяваць за інтарэсы Маскоўскай дзяржавы.

Ваяроў-літву паслалі заваёўваць Сібір. Прыкладам, у снежні 1617 г. маскоўцы выправілі ў паход "*нижегородской* ***литвы*** *и немец двести человек*" ды "*лапшенских* ***полонянников литвы*** *96 человек" (В. Грыцкевіч. Дваранска-рускія перасяленні ў XIV – XVIII стст. // Спадчына. 1993, № 4. С. 37)*. Расійскі навуковец Г.Ф. Мілер падаў у сваёй «Истории Сибири», напісанай у 1750 – 1752 гг., шмат сабраных у Табольскім архіве дакументаў. Прыкладам, у грамаце ваяводам Гадунову і Зюзіну ад 5 красавіка 1614 г. паведамляецца пра высланне грошай: „*...416-ть рублев с татарскими служилыми людьми: головою татарскою с Богданом Петровым,* ***да с литвою с Давыткowым Микифором да с Микиткою Оксеновым...***" *(Миллер Г.Ф. История Сибири. Т.II. М., Л-д, 1941. С. 229)*. Як бачым, імёны і прозвішчы ваяроў-літвы не жамойцкія, а, выкарыстаем сучасны тэрмін, — беларускія. Г.Ф. Мілер падае і дакумент 1623 г., аўтар якога затурбаваўся пра маральнасць заваёўнікаў Сібіры, таму што сібірскія казакі „*на Москве и по городом едучи подговаривают жонок и девок, ...и навезут их в Тоболеск до 50-ти и больше, и как де к Тобольску, учнут продавать* ***литве*** *и* ***немцом***" *(Тамсама. С. 294)*. Дарэчы, літва пакazала свой характар і ў Сібіры. Схаўрусаваўшыся з „немцамі", літва ў 1621 г. учыніла паўстанне *(Тамсама. С. 560)*. Цягам часу літвы, што была на службе ў сібірскіх ваяводаў, паменшала. І ў грамаце цюменскага ваяводы ад 12 траўня 1636 г. чытаем: „*...а на Тюмени де* ***служилых людей литвы*** *и казаков конных мало, только 100 человек...*" *(Тамсама. С. 435)*.

З летапісаў, хронік, з разнастайных гістарычных дакументаў выразна вынікае, што літва — гэта стан прафесійных ваяроў-наёмнікаў. Яны былі вядомыя цягам сямі стагоддзяў на абшары ад Нямеччыны да Сібіры.

## Дзе ж "сядзела" літва?

Месца пачатковага пасялення літвы не змаглі вызначыць і навукоўцы. За этнатэрыторыю гэтага "племені" яны падавалі розныя землі. Каб зградзіць неадпаведнасці, былі прыдуманы „Завілейская Літва", „Павілейская Літва", а таксама і спецыяльны тэрмін „этнаграфічная Літва", які атаесамляюць з пачатковым абшарам Вялікага Княства Літоўскага. Вядома, кожную з гэтых „Літваў" прывязвалі да розных рэгіёнаў. [Цікавым падаецца меркаванне польскага даследніка Ю. Бардаха. Ён разрозніваў абшар „Litwy wlasciwej" 'уласна Літвы' і абшар „Litwy scislejszej" 'Літвы дакладнейшай', у склад якой, паводле ягонага меркавання, уваходзіла тэрыторыя Гарадзеншчыны *(Bardach Juliusz. Zmierzch smerdyw. // Z polskich studiyw slawistycznych. W-wa, 1968. C. 50-51.)*

Цяжка сказаць, які сэнс укладалі напачатку ў тэрмін „Litwa historyczna" 'гістарычная Літва', звязваючы яго з Вільняй: „stolica Litwy historycznej Wilno" 'сталіца гістарычнай Літвы Вільня' *(Ilustrowana encyklopedja Trzaski, Everta i Michalskiego. T. 3. Warszawa, 1927. C. 162)*. Напрошваецца думка, што аўтар энцыклапедычнага артыкула не быў схільны лічыць тую Літву дзяржаўным утварэннем балтаў (летувісаў — у сучасным разуменні). Такое меркаванне пацвярджаецца і тэрмінам-вызначэннем Г. Лаўмяньскага з заўвагай-удакладненнем: „этнічная Літва (Аўкштота)" *(Jowmiacski H. Studja nad pocztkami spoieczecstwa i pacstwa litewskiego. T. 2. Wilno, 1932. C. 21)*.

---

****Задоншчына*** *– помнік рускай літаратуры канца XIV ст. Адна з трох аповесцяў, што апісваюць перамогу маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча над Мамаевым войскам на Куліковым полі ў 1380 г. За аўтара „Задоншчыны" прызнаюць „Софония старца рязанца", які, прыкладам,, у Цвярскім летапісе называецца „брянским боярином" ПСРЛ. Т. XV. СПб., 1863. Стб. 440. У іншых спісах "Задоншчыны" яго называюць "Софонием иереем рязанцем". Выказана і меркаванне, што аўтарам "Задоншчыны" быў поп князя Канстанціна Дзмітрыевіча (сына Дзмітрыя Данскога), які жыў у Пскове [Адрианова-Перетц В.П. Задонщина. Труды Отделения Древне-Русской Литературы (Далей: ТОДРЛ). Т. V. М.- Лд, 1947. С. 206.].*



З гэтых словаў вядомага польскага гісторыка вынікае, што ён міжволі ўсведамляў: была яшчэ нейкая літва па-за этнасам. Зважаючы на створаны ў 1920 г. абшар „Litwa Srodkowa" 'Сярэдняя Літва', можна сцвярджаць, што польскі даследнік меў на ўвазе населены апалячанымі крывічамі і ліцьвінамі Віленскі край. (Мы ж скажам, што тою „неэтнічнай" літвой былі літва-ваяры.)

Інакш вырашаў гэтую праблему Мікола Ермаловіч, вызначаючы месца знаходжання „гістарычнай Літвы" ў Верхнім Панямонні, пераважна на землях Навагарадскага княства. *(Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1989. С. 44).*

У энцыклапедыях жа, у спецыяльных навуковых выданнях за этнатэрыторыю гэтага выдуманага племені падаюцца розныя рэгіёны рэспублікі Летува: усходняя, пераважна, яе частка, але і сярэдняя, г. нз. Аўкштайція, ды заходняя частка – Жмудзь (Жамайція). На іншых мапах знаходзім літву на абшары Сярэдняга Панямоння. *(Третьяков П.Н. Восточнославянские племена. М.,1953. С.219. Рис. 47; Археология СССР. Финноугры и балты в эпоху средневековья. М., 1987. С.8. Карта 1; Этнографические и лигвистические аспекты этнической истории балтских народов. Рига, 1980. С.13. Рис. 3.)* Іншыя прыклады несупадзення этнатэрыторыі з гістарычнымі звесткамі ды знаходкамі археолагаў і меркаваннямі гісторыкаў будуць разгледзены ў спецыяльным раздзеле.)

З пададзеных прыкладаў вынікае, што значную частку абшару, дзе знаходзяць помнікі матэрыяльнай культуры, якія, нібыта, належалі „племяннай групоўцы, называнай літвой", насялялі іншыя плямёны: крывічы, латгалы, селы, а таксама і жамойты. Такая заўвага датычыць, вядома, пачатку XI ст., калі ўпершыню было згадана ў Квэдлінбургскіх аналах слова Litva – „in confinio Rusciae et Litvae" Цытую паводле: *Daniiowicz I. Skarbiec diplomatyw Papiezkich, cesarskich, krylewskich… T.I. Wilno, 1860. S.36.* А той рэгіён Панямоння, які прызнаецца за месца знаходжання „гістарычнай літвы", не мае адпаведных помнікаў матэрыяльнай культуры балтаў. Як зазначае В.Б. Перхаўка, менавіта ў Панямонні выяўлены „археалагічныя помнікі", што выразна сведчаць пра ўплыў заходнеславянскага этнасу. *(Перхавко В.Б. Западнославянские элементы в раннесредневековой культуре междуречья Днепра и Немана. // КСИА. М., 1986. Вып. 187. )*

Прычына такой недакладнасці ў вызначэнні тэрыторыі літвы тоіцца, відаць, у свядомасці аўтараў, якім да таго ж не хапала гістарычных і археалагічных матэрыялаў. Таму трэба звярнуцца да спецыяльнага навуковага выдання, падрыхтаванага Інстытутам Археалогіі АН СССР. „Финно-угры и балты в эпоху средневековья" — так называецца цікавы нам том з 20-томнай серыі „Археология СССР с древнейших времён до средневековья". Адказным рэдактарам згаданага тому з'яўляецца доктар гістарычных навук В.В. Сядоў -- славуты даследнік ранняй гісторыі славянскіх і балцкіх народаў.

## Хто насыпаў „усходнелітоўскія" курганы?

У раздзеле, прысвечаным „літоўскім" плямёнам, даецца пераказ гісторыі даследавання „паўднёва-ўсходняй часткі сучаснай тэрыторыі Літоўскай ССР з прылеглымі да яе раёнамі Беларусі", якую „ў эпоху сярэднявечча насяляла племянная групоўка, называная літвой" Археология СССР. Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987. С. 390. (Заўважым: літвой, а не літоўцамі ці летувісамі!) Гэтая "племянная групоўка" пакінула г. нз. усходнелітоўскія курганы.

„У арэале племяннай групоўкі літвы... не менш за 250 могільнікаў, у якіх было блізу 7000 курганоў усходнеелітоўскага тыпу."

Апошняе вызначэнне належыць вядомаму археолагу Ф.В. Пакроўскаму, які „ў 1892 - 1895 гг. раскапаў блізу 150 курганных насыпаў у 20 могільніках" *(В.В.Седов. Балты. С. 391).* („Апублікаваныя падрабязныя матэрыялы раскопак і цалкам захаваныя знаходкі з раскопак Ф.В. Пакроўскага з'яўляюцца каштоўнай крыніцай вывучэння ўсходнелітоўскіх курганоў" *(Таўтавичус А.З. Восточнолитовские курганы. // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959. С. 129)* – так ацаніў працу расійскага археолага вядомы летувіскі археолаг А.З. Таўтавічус. З высокай ацэнкай даследаванняў Ф.В. Пакроўскага згодны і аўтар нарысаў пра балцкія плямёны В.В. Сядоў: "Матэрыялы гэтых раскопак... з'яўляюцца важнейшай крыніцай у вывучэнні ўсходнелітоўскіх курганоў" *(В.В. Седов. Балты. С.391).*

Курганы з-над Віліі ды яе прытокаў здаўна вабілі аматараў даўніны. У 40-50-х гг. XIX ст. іх раскопвалі Людвік Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля), Адам Кіркор, Адам Плятар, Яўстах Тышкевіч, Вандалін Шукевіч. З таго часу гэтыя помнікі старасветчыны называлі розна: капцы, валатоўкі, „предполагаемые литовские курганы." *(Спицын А.А. Предполагаемые литовские курганы VIII – IX вв. // Записки Русского археологического общества. Т. VII, выпуск 1 – 2. М., 1896. С. 103 – 114, „kurhany ciaiopalne"* 'курганы з трупаспаленнямі' *Szukiewicz W. Kurhany ciaiopalne w Potusiu. // Swiatowid, Warszawa, 1900. T. II. C. 3 – 8, „domniemane kurhany litewskie"* 'уяўныя літоўскія курганы' *Szukiewicz W. Domniemane kurhany litewskie. // Rocznik Towarzystwa Przyjaciyi Nauk w Wilnie. Wilno, 1909. C. 83 — 93),* „курганы на границе современной *(гэтае і далейшыя вылучэнні мае – З. С.) Литвы и Белоруссии" Покровский Ф.В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии". // Труды IX Археологического съезда в Вильне, 1893. М., 1895. Т. 1.)*

Напрыканцы XIX ст. археолагі Э. Вальтэр і В. Шукевіч сабралі даволі багаты матэрыял, які і „да гэтага часу (да 60-х гг. XX ст. — З.С.) з'яўляецца асноўнай крыніцай вывучэння пахавальных помнікаў на поўдні Літоўскай ССР" Таўтавичус А.З. Восточнолитовские курганы. С. 129.

NB. Вынікі тых раскопак апублікаваныя, "у музеях захоўваюцца рэчавыя матэрыялы" *(В.В. Седов. Балты. С. 391).* Аднак археолагі таго часу не асмеліліся прызнаць прыналежнасць курганоў ні славянам, ні жамойтам, ні яцвягам. Пра "племя аўкштайтаў" яны, мабыць, і не чулі.

Новы этап раскопак курганоў пачаўся ў міжваенныя гады XX ст. Гэтыя ўнікальныя помнікі даследавалі археолагі Польшчы і рэспублікі Летува. Імі было раскапана "блізу 300 пахавальных насыпаў у 20 могільніках". На жаль, "асноўная частка матэрыялаў гэтых раскопак засталася неапублікаванай" *(В.В. Седов. Балты. С. 391).*

Археолагі савецкай Летувы асабліва актыўна ўзяліся раскопваць могільнікі пасля 1945 г. Цягам 1951 – 1954 гг. была звернута пільная ўвага на даследаванне "ўсходнелітоўскіх" курганоў у сярэдзіне іх арэала. Ды лёс даследавання 18 могільнікаў быў падобны: "матэрыялы засталіся неапублікаванымі" *(Тамсама).* Аднак пошукі не спыняліся. Паводле А.З. Таўтавічуса, толькі да 1956 г. "у 100 курганных групах раскапана блізу 850 усходнелітоўскіх курганоў" *(Таутавичус А.З. Восточнолитовские курганы. С. 130),* значыць, было даследавана 12 адсоткаў помнікаў). Спецыяльнае прысвечанае „ўсходнелітоўскім" курганам даследаванне — сістэматызаваны і абагульнены ўсе сабраныя археалагічныя дадзеныя — было зроблена А.З. Таўтавічусам у 1959 г. Гэтыя пахавальныя помнікі разгледжаныя ім і ў кнізе калектыву аўтараў „Нарысы літоўскай археалогіі", якая выдадзена ў 1961 г. *(В.В. Седов. Балты. С. 391).* У 1982 г. В. Даўгудзіс апублікаваў кнігу пра даследа-ванні сярэдневяковых паселішчаў Летувы, у якой „некаторыя вынікі вывучэння падведзены, праўда, агулам, для ўсёй тэрыторыі Літоўскай ССР. *(Тамсама. С. 392).*

Таму В.В. Сядоў меў падставу сцвярджаць: „пахавальныя помнікі племяннай групоўкі ***літва***... курганы, называныя ў навуковай літаратуры ўсходнелітоўскімі ... значна лепш даследаваныя, чым грунтавыя могільнікі жамойтаў і аўкштайтаў." *(Тамсама. С. 390).* Але ён вымушаны быў заўважыць, што „падрабязныя апісанні вынікаў раскопак курганоў адсутнічаюць..." *(Тамсама).*

Тэрмін „усходнелітоўскія" курганы замацаваўся ў гістарычнай літаратуры, хаця навукоўцам вядома, што нямала іх і на абшары паўночнай часткі Беларусі, не кажучы ўжо пра населены славянамі Віленскі край. Да таго ж, на падставе „некаторых агульных рысаў пахавальнага абраду, вонкавага выгляду курганоў, асобных авальных або прадаўгаватых насыпаў (крывіцкіх помнікаў! – З.С.), папялішчаў у курганах" А.З. Таўтавічус сцвярджаў існаванне „цесных сувязяў" з усходнеславянскімі плямёнамі *(Таутавичус А.З. Восточнолитовские курганы. С. 144.)* Праўда, гэты летувіскі даследнік уяўляў згаданыя „цесныя сувязі" як культурны ўплыў на суседзяў. Прыкладам, гаворачы, што такія сувязі існавалі ўжо ў IV – VI стст., А.З. Таўтавічус меў на ўвазе знаходкі „скроневых колцаў з спіральнымі завіткамі ва ...усходнеславянскіх помніках" *(Тамсама. С. 145).* А, здавалася б, трэба гаварыць пра знаходкі гэтых тыпова славянскіх жаночых аздобаў ва „ўсходнелітоўскіх" курганах.)

NB. Польскімі і летувіскімі археолагамі даследавана не менш за 850 "усходнелітоўскіх" курганоў, але "матэрыялы засталіся неапублікаванымі", "падрабязныя апісанні вынікаў раскопак курганоў адсутнічаюць".

– То не абыякавасць археолагаў да вынікаў сваёй нялёгкай працы, а боязь выявіць вынікі даследавання. *(Аднак абагуленыя вынікі апублікавала М. Альсейкайтэ-Гімбуцене ў 1946 г. у Нямеччыне.)*

## Што знайшлі ва „ўсходнелітоўскіх" курганах?

Археалагічныя даследаванні ў Летуве не спыняліся, і дзеля выдання спецыяльнага тома „Финно-угры и балты в эпоху средневековья" (М., 1987) згаданай серыі „Археология СССР" рэчавага матэрыялу павінны былі назбіраць. Аднак рэчы літвы пададзены толькі ў табліцах CXXII *(„Древности литвы. Эволюция" В.В. Седов. Балты. С. 441 і CXXV „Украшения литвы" Тамсама. С. 444).* Ды яшчэ агулом у табліцах CXXIV, CXXVI падаюцца знаходкі з „помнікаў літоўскіх плямёнаў і яцвягаў", у табліцы CXXIII — „рэчы ўзбраення літоўскіх плямёнаў". (Параўнай: асобна пададзены "старажытнасці" латгалаў ў 6 табліцах, прусаў — 5, жамойтаў — 3 і куршаў – 3, хоць іх археалагічных помнікаў даследавана непараўнальна менш.)

Верагодна, некаторыя знойдзеныя ва "ўсходнелітоўскіх" курганах рэчы нельга было падаваць за этнавызначальныя для „ўсходніх літоўцаў". Так, А.З. Таўтавічус згадаў знаходку „тыповых усходнелітоўскіх шыйных грыўнаў з седлавіннымі канцамі VII – VIII стст. з Узлянаў (БССР)" (Пухавіцкага раёна – З.С.) *(Таутавичус А.З. Восточнолитовские курганы. С. 130.).* Знаходку ён тлумачыў „літоўска-славянскімі сувязямі", падразумяваючы „ўсходнелітоўскі" вываз, а, магчыма, і прысутнасць балцкага насельніцтва на Міншчыне. Бачыў жа знакаміты польскі гісторык Е. Ахманьскі "ўсходнюю мяжу рассялення балтаў", паводле ягонага меркавання літоўцаў, на Аршаншчыне. Р. Ябланскітэ-Рыманцене сцвярджала: „У VII – X стст. былі распаўсюджаныя характэрныя для плямёнаў Латвіі і Паўночнай Літвы шыйныя грыўны з седлавінамі, а таксама з пляскатымі канцамі" *(Яблонските-Римантене Р. О древнейших культурных областях на территории Литвы. Советская этнография. 1955, № 3. С. 16).* Узоры такіх грыўнаў сапраўды бачым у табліцах латгальскіх старажытнасцяў. *(В.В. Седов. Балты. С. 424, 425. Табліцы CV, CVI.)*

Раней А.З. Таўтавічус прызнаў характэрнымі для "ўсходнелітоўскіх" курганоў "височные кольца, манжетные браслеты, эмалированные подкововидные фибулы". *(Таутавичус А.З. Восточнолитовские курганы. С. 133).* А ў названым томе толькі згадваецца "подковообразная застежка с выемчатой эмалью". *(В.В. Седов. Балты. С. 392).* Відаць, В.В. Сядоў палічыў згаданыя фібулы не адпаведнымі. Што да скроневых колцаў, то А.З. Таўтавічус, разважаючы пра пахаванні ў грунтавых ямах пад курганамі, напісаў: "Скроневыя колцы з дроту круглага або ромбавага сячэння... маюць спіральныя завіткі і нагадваюць падобныя аздобы з Сярэдняга Падняпроўя". *(Тамсама. С. 131.)* А тыя падняпроўскія скроневыя колцы Б.А. Рыбакоў прыпісваў "старажытным русам". *(Рыбаков Б.А. Древние русы. // Советская археология. Т. XVII. 1953. С. 75, 81).* Дарэчы, такія ж скроневыя колцы, што і пададзеныя ў артыкуле А.З. Таўтавічуса, вядомыя і „ў заходніх славянаў VIII – IX стст.", дзе "скроневыя колцы былі настолькі папулярнымі, што лічыліся спецыфічным славянскім упрыгожаннем". *(Энцыклапедыя Археалогія і нумізматыка Беларусі. Мн., 1993. С. 566.)* Паводле тоеснасці жаночых аздобаў з „усходнелітоўскіх" курганоў ды славянскіх скроневых колцаў з Мекленбургіі можна ўявіць, што менавіта заходнеславянскія бежанцы, у тым ліку ваяры-літва, і былі тым "прыблуканым з паўночнага захаду" насельніцтвам, якое, паводле В.В. Сядова, прынесла "сюды звычай пахавання пад курганнымі насыпамі" *(В.В. Седов. Балты. С. 395).* Скроневыя колцы, як уласцівыя літве X-XI стст. аздобы, пададзены ў табліцы CXXII "Древности литвы. Эволюция". Але В.В. Сядоў напісаў: „Скроневыя колцы з дроту ўласцівыя толькі для самых ранніх пахаванняў з трупаспаленнямі (ва ўсходнелітоўскіх курганах." *(Тамсама. С. 393, значыць, для V ст.).*

Аднак жа некаторыя летувіскія археолагі сцвярджаюць, што жанчыны гэтага рэгіёна ўпадабалі іншыя аздобы. Так, у нарысе „Литва" напісана: "Р.К. Валкайтэ-Кулікаўскене на падставе вывучэння рэчавых рэштак з усходнелітоўскіх курганоў узнавіла жаночы галаўны ўбор VIII – XI стст. Гэта быў вянок („венок-оголовье"), складзены з бронзавых пласцінак памерамі 3,5х3,5 да 5,2х3,5 см і некалькіх радкоў бронзавых спіраляў. *(В.В. Седов. Балты. С. 394.)*

*(Працяг у наступным нумары.)*

В.В. Седов. Балты. //Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М.,1987. С.392.
1.Капцы. Валатоўкі. „Предполагаемые литовские курганы"…
2. Новы этап даследавання

# ПОЛЮС ЦЯПЛА Вячаслава Рагойшы

Кнігу «Полюс цяпла» вядомага гісторыка і тэарэтыка літаратуры, доктара філалагічных навук, прафесара Вячаслава Рагойшы склалі асобныя вершы, якія на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў «здараліся» ў яго побач з напісаннем артыкулаў, манаграфій, «Паэтычнага слоўніка», перакладамі на беларускую мову паэтычных і празаічных твораў іншамоўных аўтараў. Агульнае, што іх аб'ядноўвае - гэта выяўленне любові да роднага кута, Бацькаўшчыны-Беларусі, яе людзей, да роднай мовы, жанчыны. У раздзел «Першапутак» увайшлі найбольш раннія па часе напісання творы. У раздзеле «Ружанец» у форме вершаваных карацелек, у тым ліку сатырычных, увасоблены роздум іх аўтара над некаторымі актуаліямі нашага сучаснага жыцця.




**КУПАЛАЎСКІ ТРЫПЦІХ**

1

Кожную жылку
Сваіх патрэб
Прасвечваю
Вашых ідэй
Святлом.
Не на куце ў мяне
Ваш партрэт,
А над рабочым сталом.

2

Каб нас ніхто не ўрок,
І пошасць не зламала,
У нас адзін прарок -
Купала!

3

Купалаўскі кліч
"Жыве Беларусь!"
І ў сэрцы,
І ў галаве.
Ты толькі не бойся,
Ты толькі не трусь:
Жыве Беларусь,
Жыве.

**ПА ДАРОЗЕ Ў СТОЎБЦЫ**

Цягнік, наказ наш улічы,
Званчэй па рэйках лязгай,
Хутчэй
да Стоўбцаў даімчы -
Зрабі такую ласку!

Мы ўсёй
студэнцкаю раднёй
Спяшаемся, дзе колісь
Над шчодрай
роднаю раллёй
Узняўся буйны
Колас.

Нам зерні з Коласа таго,
Як іскры, ў сэрцы ўпалі
І там збудзілі зніч-агонь,
Навечна запалалі.

Хай ліўні льюць,
імжыць імжа
Ў жыццёвай кругаверці,
Ды той агонь
І ста дажджам
Не вымыць
з нашых сэрцаў.

Палаць яму
штодзень, штогод,
Нам шчасце ж адгукнецца,
Калі й другім каля яго
Захочацца пагрэцца.

Дык ты імчы, цягнік імчы,
Званчэй па рэйках лязгай,
Да Стоўбцаў
шпалы падлічы -
Зрабі такую ласку.

**УЗІМКУ**

Беленькай коўдрай
Ўся зямля заслана,
І празрыстым лёдам
Рэчка закавана.
Нібы ў задуменні
Бор стаіць сасновы
І зіме пакорна
Пасхіляў галовы.
Вераб'і пад дахам
Сядзяць у саломе,
А восень мне чамусьці
Не сядзіцца дома.

*Вячаслаў Рагойша.*

# Развіццё выставачнай дзейнасці на Беларусі

Увагу чалавека заўсёды прываблівалі незвычайныя, рэдкія рэчы. Збор прадметаў, якія не маюць утылітарнага прызначэння вядомы на працягу тысячагоддзяў. Традыцыя выстаўляць творы мастацтва, ваенныя трафеі і іншыя аб'екты для ўсеагульнага агляду існавала ўжо ў эпоху Антычнасці.

На Беларусі працэс назапашвання прадметаў, якія мелі культурнае і гістарычнае значэнне адбываўся паступова. У сярэднявечных храмах выстаўляліся рукапісы ў мастацка выробленых вокладках, дарагія усходнія тканіны, шматлікія рэлііквіі. Значную ролю ў мастацка-рэліквійным аздабленні заснаваных ёю храмаў адыграла беларуская асветніца Ефрасіння Полацкая. У царкоўна-рэлігійных і культавых дзеяннях мастацтва экспанавання вырашала задачы пазнання Бога і распаўсюджвання веры.

Унікальныя калекцыі належалі такім беларускім магнатам як Радзівілы, Сапегі, Астрожскія, Солтаны, Друцкія-Любецкія і інш. Але ж усе прыватныя зборы былі закрытага тыпу і недаступныя масаваму наведвальніку.

У другой палове XVIII ст. на беларускіх землях, як і ва ўсёй Рэчы Паспалітай, распаўсюджвацца ідэалогія асветы. Вялікую ролю ў яе папулярызацыі мелі калекцыі Храптовічаў, Ябланоўскай, Тызенгаўзаў, якія пачалі экспанавацца ў палацах іх уладароў. Так, творы мастацтва, нумізматычныя калекцыі, этнаграфічныя матэрыялы, калекцыя мінералаў Ганны Ябланоўскай былі выстаўлены ў чатырох вялікіх залах яе маёнтка ў Сямяцічах. Вялікую ўвагу папулярызацыі сваёй бібліятэкі, у якой было каля 20 тыс. кніг, надаваў Іахім Храптовіч. Вялікі ўнёсак у развіццё музейнай і выставачнай дзейнасці зрабіў К. Тышкевіч. Яго калекцыі экспанаваліся ў дзвюх спецыяльна прысвечаных залах палаца ў Лагойску.

Першым выставачным праектам у сучасным разуменні можна лічыць Студэнцкую выставу 1820 г., якая прайшла ў Віленскім універсітэце. Ваньковіч прадставіў на ёй 14 работ.

У першай палове XIX ст. на тэрыторыі Беларусі праводзіліся выставы ў галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі. У 1836 г. Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі накіравала губернатарам цыркуляр аб адкрыцці ў губернскіх гарадах, у тым ліку ў Менску, Віцебску, Магілёве, выстаў прамысловых вырабаў. Так у 1837 г. адбылася "Выстава твораў губерні", арганізаваная Гарадзенскім статыстычным камітэтам.

Прамысловае развіццё еўрапейскіх краін у другой палове XIX ст.. рост міжнародных эканамічных адносін, навуковых і культурных сувязяў абумовілі ўзнікненне сусветнага рынку ў сярэдзіне XIX ст.. узнікае неабходнасць у нраўядзенні сусветных выстаў.

Расія прымала актыўны ўдзел у Сусветных выставах пачынаючы з першай. якая адбылася ў 1851 г. у Лондане, а ў складзе яе павільёнаў і аддзелаў была Беларусь. Беларускі дэбют на першай выставе быў сціплы: узоры шкурак пясца з Менскай губерні, сасновы шкіпінар памешчыка Рдултоўскага з Менскага павету, жыта, бавоўна і воўна з Горыгорыцкай фермы Магілёўскай губерні. Усяго на дзевяці Сусветных выставах 19 ст. прыняло ўдзел каля ста экспанентаў з Беларусі. Большасць з іх была ўзнагароджана. Такое сусветнае прызнанне сведчыла аб экспартным патэнцыяле беларускай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Акрамя таго, беларускія вытворцы неаднаразова атрымоўвалі ўзнагароды на міжнародных спецыялізаваных выставах, а таксама на шматлікіх айчынных аглядах дасягненняў, у тым ліку і на ўсерасійскіх выставах (1882, 1896, 1913).

Калекцыі музея менскага губернскага статыстычнага камітэта былі прадстаўлены на Палітэхнічнай выставе ў Маскве ў 1872 г., арганізаванай на ініцыятыве прафесараў Маскоўскага універсітэта А.А. Багданава і Г.Я. Шчуроўскага.

У канцы XIX ст. на тэрыторыі Беларусі, дзякуючы дзейнасці Раманава. была сфармавана група музеяў, зборы якіх складаліся з царкоўных старажытнасцяў, у выніку чаго быў адкрыты шэраг экспазіцый у Магілёве, Віцебску, Менску. Аднак у сувязі з ваеннымі падзеямі 1914-1915 гг. выставачная дзейнасць амаль спынілася. Тым не менш нельга сказаць, што культурнае жыццё Беларусі ў гэты перыяд абмяжоўвалася толькі вывазам каштоўнасцяў. У 1916 г. у Менску адбылася выстава жывапісу і дзкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якую арганізавалі Менскі гарадскі музей і Менскі аддзел па нагляду за прадметамі мастацкай культуры. У 1918 г. у Вільні і Менску па ініцыятыве І. Луцкевіча і мастацтвазнаўцы А. Іпеля прайшла Выстава беларускага мастацтва.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі выставачная дзейнасць падпарадкоўвацца палітычнай ідэалогіі. У прапагандысцкай дзейнасці асноўная ўвага была звернута на стварэнне перасоўных выстаў, прысвечаных гаспадарча-палітычным кампаніям, рэвалюцыйным святам, барацьбе з рэлігіяй. Выставы накіроўваюцца ў школы, калгасы, нрадпрыемствы, вайсковыя часткі.

У сувязі з абмежаваннем магчымасцяў прыняць наведвальнікаў у стацыянарнай экспазіцыі ствараюцца цыклы выставаў на адну тэму.

У 1923 г. на павятовай сельскагаспадарчай выставе ў Слуцку, была прадэманстравана калекцыя, сабраная членамі слуцкага музейнага бюро.

Па выніках падрыхтоўчай дзейнасці супрацоўнікаў Гіспарта была праведзена выстава сабраных матэрыялаў, на аснове якой 2 траўня 1926 г. адбылося адкрыццё Музея рэвалюцыі БССР у Менску.

У 1925 г., 1927 г., 1929 г. у Менску з поспехам прайшлі тры Усебеларускія мастацкія выставы. Усебеларуская выстава графікі, карцін, скульптуры і архітэктуры адбылася ў жніўні 1930 г. у Беларускім дзяржаўным музеі. 29 снежня 1936 г. адкрылася выстава твораў беларускіх мастакоў у Доме мастакоў.

Выставачная дзейнасць у гады Вялікай Айчыннай вайны была накіравана на выхаванне патрыятызму, барацьбу з ворагам. У ваенныя гады арганізоўваліся выставы трафеяў у Маскве, Менску, Тбілісі. У 1943 г. у Маскве была створана "Камісія па збору матэрыялаў аб Вялікай Айчыннай вайне"; у 1944 г. яна пераехала ў Гомель, а потым у Менск. На аснове гэтых матэрыялаў была арганізавана выстава "Беларусь жыве, Беларусь змагаецца, Беларусь была і будзе савецкай", якая стала базай для стварэння Дзяржаўнага музея Вялікай Айчыннай вайны.

У пасляваенныя гады значэнне выставаў паступова ўзрастае. Вырашэнне задач узнаўлення народнай гаспадаркі патрабавала прапаганды і папулярызацыі лепшага доседу прамысловых дасягненняў.

Дасягненні прамысловасці і сельскай гаспадаркі БССР дэманстраваліся на Усесаюзных сельскагаспадарчых і прамысловых выставах у павільёне "Беларуская ССР" і ў галіновых павільёнах.

З 30 жніўня па 4 верасня 1967 г. на ВДНГ СССР прайшлі дні культуры і мастацтва Беларускай ССР.

Пры пераходзе да рыначнай эканомікі ў выставачнай дзейнасці адбыліся прынцыповыя змены. Змяніліся яе мэты і арганізацыйныя асновы. Прапаганда навукова-тэхнічных дасягненняў саступіла месца камерцыйным задачам і асваенню рынка. На працягу 1991 - 1992 гг. ішоў працэс рэарганізацыі дзейнасці выставачных арганізацый. У выніку пераўтварэнняў быў атрыманы досвед работы без падтрымкі дзяржавы, адбыліся першыя эксперыменты ўзаемадзеяння з замежнымі выставачнымі фірмамі. Пачынаючы з 1993 г. выставачная дзейнасць, заснаваная на новых рыначных адносінах, пачала адраджацца. У выніку гэтых пераўтварэнняў на сённяшні дзень выставачныя арганізацыі пачалі атрымоўваць фінансавую падтрымку ад адміністрацыі Прэзідэнта і органаў мясцовай улады. На сённяшні дзень у Рэспубліцы Беларусь арганізатарамі выстаў з'яўляюцца выставачны комплекс "Мінскэкспа", выставачнае таварыства "Экспафорум", Рэспубліканскі выставачны цэнтр "Цэнтр XXI стагоддзе" і шматфункцыянальныя выставачныя комплексы. Утвораны таксама саюзы і асацыяцыі выстаў. "Мінскэкспа" і "Экспафорум" увайшлі ў "Саюз выстаў і кірмашоў", утвораны ў 1991 г.

На стадыі развіцця знаходзіцца зараз артрынак Беларусі. Разам з даўно вядомымі грамадскімі мастацкімі суполкамі, такімі як Беларускі Саюз мастакоў, з'явіліся новыя: "Няміга", Міжнароднае грамадскае аб'яднанне мастакоў і мастацтвазнаўцаў "Майстар", Міжнародная гільдыя жывапісцаў і інш.

Такім чынам, у сучасных умовах прадпрыемствы і арганізацыі ўсё шырэй выкарыстоўваюць такі інструмент маркетынгу, як выставы. Яны забяспечваюць мабільнасць рынку, ствараюць неабходнае інфармацыйнае поле, прыносяць падаткавы даход у бюджэты ўсіх узроўняў.

*Наталля Ганчарова, выпускніца Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.*



# НОВАЯ КНІГА ВОЛЬГІ ІПАТАВАЙ

Сімвалічна, што прэзентацыя новай кнігі Вольгі Іпатавай "Свабода да апошняга дыхання" адбылася ў Бычках, у дзень нараджэння вялікага сына беларускай зямлі Васіля Быкава, у прысутнасці тых, хто сёння змагаецца за свабоду і рэальную, а не дэкляраваную незалежнасць Беларусі.




Кніга гэтая – новы крок у творчасці пісьменніцы, якая нястомна адначуляе старонкі нашай памяці. За апошнія гады яна здзейсніла сваю даўнюю мару – пабываць ля месцаў апошняга супакаення многіх слаўных дзеячоў нашай зямлі. Пачатак гэтай задуме паклала, як яна сама прызнаецца, паездка ў Злучаныя Штаты Амерыкі ў 1993 годзе, калі пісьменніца пабывала на могілках беларускіх эмігрантаў і была ўражаная. "Гэта былі першыя ў маім жыцці па – сапраўднаму беларускія магілкі, дзе ўсё – і надпісы, і сімволіка, і імёны – гучала на роднай мове. Гэта была то лацініца, то кірыліца, але яна, са сваімі ці то палескімі, ці то віцебскімі асаблівасцямі, дыхала зямлёй, якую яны – тыя, хто ляжаў тут – любілі да апошняга свайго дыхання і змагаліся за тое, каб яна жыла на Беларусі" – расказвае пісьменніца.

У кнізе ўтрымліваюцца апавяды пра тых, з кім Вользе Іпатавай пашанцавала быць знаёмай ці нават сябраваць з імі. А гэта Ларыса Геніюш, Міхась Васілёк, Алесь Адамовіч, Лявон Луцкевіч, Зоська Верас, Аляксей Карпюк, а таксама нядаўна памерлыя нашы сучаснікі – Мікола Ганько, Марыя Мацюкевіч, Лявон Драздоў. Расказвае пісьменніца таксама і пра тых, чые магілы раскіданыя па ўсім свеце – ад Сібіры да Чылі...

Кніга "Свабода да апошняга дыхання" ужо атрымала шмат захопленых водгукаў.

Пісьменніца ахвяравала частку накладу на патрэбы Таварыства беларускай мовы.

*Ю. Трубец.*

# Памёр яшчэ адзін зубр Беларускага адраджэння

Пасля доўгай, цяжкай хваробы не стала Генадзя Банкевіча, самаахвярнага рупліўца на ніве нацыянальнага Адраджэння. Ён быў чалавекам дзеяння, гарэў лёсам Беларусі і дарэшты згараў у клопатнай працы дзеля яе будучыні.



Згадаем асноўныя вехі жыццёвага шляху Генадзя Уладзіміравіча Банкевіча.

Ён нарадзіўся ў Заходняй Беларусі 15 траўня 1930 года ў в. Малая Калпініца каля Баранавіч. Да вайны скончыў 3 класы Малакалпініцкай пачатковай школы. У час другой сусветнай вайны знаходзіўся дома "на оккупированной врагом территории", што пазней настойліва падкрэслівалася ў яго службовых анкетах. Гэта стрымлівала кар'ерны рост па службе.

У 1949 годзе заканчвае Баранавіцкую сярэднюю чыгуначную школу і паступае ў Ленінградскую вайсковую будаўніча-інжынерную вучэльню. У 1959 г. здольны, ініцыятыўны афіцэр атрымаў дыплом выпускніка вайсковай акадэміі імя Жукоўскага. Вучыўся Генадзь вельмі добра, як, дарэчы, і служыў. А служыць яму давялося ў Карэліі, на Украіне, у Казахстане, у г. Калініне (цяпер г. Цвер), у ГДР. Звольніўся з вайсковай службы ў 1977 годзе ў званні падпалкоўніка.

З 1977 года ў Менску. Няўрымслівы па натуры, ён не мог заставацца вайсковым пенсіянерам, быць ціхім дачнікам. Працуе загадчыкам канцылярыі ў Менскім гарвыканкаме, потым інжынерам на ВА "Гранат". Апошнія гады быў вартаўніком на будоўлі. Не баяўся ніякай фізічнай працы, бо да работы быў прывучаны змалку.

За бездакорную вайсковую службу быў узнагароджаны ордэнам і медалямі.

Вялікія заслугі Генадзя Банкевіча ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі апошніх дваццаці гадоў. Ён адзін з заснавальнікаў Беларускага народнага фронту.

Старшыня рады БНФ Фрунзенскага раёна г. Менска, чынны ўдзельнік Беларускага згуртавання вайскоўцаў, сярод многіх іншых прыняў прысягу на вернасць Бацькаўшчыне на плошчы Незалежнасці 8 верасня 1992 года. Быў самым чынным сябрам рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Фрунзенскага раёна, шмат рабіў для пашырэння колькаснага складу арганізацыі сярод фрунзенцаў, для беларускамоўнага аўдыёвізуальнага выгляду раёна.

Але самая вялікая яго заслуга ў тым, што ён, па даручэнні Рады ТБМ, арганізаваў і ўзначаліў Менскую абласную арганізацыю ТБМ, дабіўся яе афіцыйнай рэгістрацыі, вёў вялікую работу з рэгіянальнымі суполкамі. І толькі, калі моцна занядужаў, то пакінуў гэту клопатную пасаду некалькі год назад.

Пасля расколу БНФ увайшоў у склад Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ "Адраджэньне".

У побыце вёў сціплы лад жыцця. Не піў, не курыў, быў прыкладным сем'янінам. Жонка Марыя Міхайлаўна і дочкі Галіна і Аліна ўсяляк падтрымлівалі грамадска-палітычную дзейнасць мужа і бацькі, ганарыліся яго цвёрдай жыццёвай пазіцыяй.

Апошнія паўгода Генадзь Уладзіміравіч хварэў невылечнай хваробай. Не стала яго 6 ліпеня 2007 года. Пахаваны 8 ліпеня на Паўночных могілках г. Менска.

Хай будзе табе пухам родная зямля, а душы вольна ў небе Беларусі.

Бывай, дарагі дружа!

*Сябры Фрунзенскай раённай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны г. Менска.*

---

Не прайшло і паўгоду з таго часу, калі на Віцебскай зямлі быў усталяваны помнік сіламі і на сродкі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі Беларускага Народнага Фронту бяззменнаму старшыні абласной арганізацыі, сябару сойму КХП-БНФ: Уладзіміру Плешчанку, як памёр другі зубр Беларускага адраджэння старшыня Менскай абласной арганізацыі і сябар Сойму гэтай жа партыі: Генадзь Банкевіч. Пахаванне яго адбылося на Паўночных могілках 8 ліпеня 2007 г.

Пад час вынасу цела, і на жалобным абедзе на могілках сябарамі-аднадумцамі на адрас Генадзя прагучала шмат цёплых слоў. Выказваліся з гэтай нагоды не толькі кіраўнікі партыі, а і шарагоўцы як з Менска, так і з раённых арганізацыяў партыі.

Выказаўся і я. У сваёй кароценькай прамове я адзначыў, што Генадзя з шэрагу кіраўнікоў яго кшталту наступныя якасці: праўдзівасць, дысцыплінаванасць, неабыякавасць, абавязковасць з аднаго боку, шчырасць і сардэчнасць з другога.

Кажучы словамі паэта, пра яго мушу сказаць: "Менавіта з такім, як Генадзь, я ў разведку б пайшоў безумоўна", менавіта да яго гэтаксама, як і да Уладзіміра Плешчанкі можна і патрэбна дапасаваць наступны радок:

"Я - нацыяналіст, і гэтым ганаруся..."

*Мікола Яўмененка з вёскі Чудзенічы Лагойскага раёна.*

# ВЯРТАЮЧЫ ВЕЧНАСЦЬ...

Сваю новую кнігу "Свабода да апошняга дыхання" пісьменніца Вольга Іпатава прэзентавала ў Слуцку – горадзе яркага і мужнага антыбальшавіцкага паўстання на пачатку мінулага стагоддзя і шматлікіх гістарычных падзеях беларускай гісторыі.

Арганізавала гэтую сустрэчу мясцовая суполка Таварыства беларускай мовы, удзельнікі якой ведаюць і любяць гісторыю свайго краю. Аднак многае з таго, пра што расказвала Вольга Міхайлаўна, належыць да тых старонак нашай мінуўшчыны, якія яшчэ толькі робяцца здабыткам грамадскасці і патрабуюць яе чыннага ўдзелу.

"Белых плямаў" у нашай гісторыі яшчэ столькі, што аднымі сіламі пісьменнікаў ды гісторыкаў нам не ўзняць пласты памяці і зрабіць так, каб лепшае з мінуўшчыны, асабліва гераічныя справы продкаў, увайшло як прыклад у нашае паўсядзённае жыццё" – гаварыла Вольга Іпатава, прыводзячы прыклады самаахвярнай працы энтузіястаў ды грамадскасці ў некаторых рэгіёнах Беларусі – такіх, як Лідчына ды Слонімшчына, Воранаўшчына ды Піншчына. Апавядала яна і пра шматлікія факты абыякавасці да гісторыі - на жаль, іх куды болей, чым дадатных.

Па - майстэрску чытала яна вершы, прысвечаныя шмат якім выбітным асобам, найперш Янку Купалу, таямніца гібелі якога не раскрытая дасюль, а таксама людзям, чые магілы і помнікі гэтая нястомная літаратарка і грамадская дзяячка наведала падчас сваіх падарожжаў па Беларусі.

А на заканчэнне літаратурнай імпрэзы удзельнікі прыйшлі да магілы паэта, перакладчыка і мемуарыста XIX стагоддзя Альгерда Абуховіча (25.(6.8.) 1840 – 10 (22) 8. 1898), які вучыўся у Слуцкай кальвінскай гімназіі, пасля пражыў тут свае апошнія гады і пахаваны на мясцовых могілках.

Нажаль, і тут вандалы пакінулі свой чорны след: металічны крыж на каменным помніку паэта знік. Ды і цяжка прайсці да яго праз зараснікі крапівы і пустазелля, што рэзка кантрастуе з дагледжанымі да свята Перамогі пахаваннямі воінаў у самым пачатку могілак. І гэта пры тым, што, наколькі нам вядома, на Беларусі захаваліся толькі дзве магілы паэтаў – дэмакратаў XIX стагоддзя: Альгерда Абуховіча і Фелікса Тапчэўскага. Але ў вёсцы Глыбачка Ушацкага раёна магіла Ф. Тапчэўскага выдатна выглядае, і ля яе ладзяцца літаратурныя сустрэчы. І гэта справядліва: гісторыя Беларусі не пачынаецца ні з 1917, ні, тым болей, з 1945 года...

У Слуцку чакаюць пісьменнікаў. Так гаварылі удзельнікі сустрэчы, узгадваючы пра сваіх землякоў-творцаў, сярод якіх сённяшні старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч. Чакаюць тых, хто не прадае свайго пісьменніцкага таленту, не заплюшчвае вочы на занядбанне роднай мовы, а змагаецца за яе і тым самым за нашу незалежную Беларусь.

Случчакі добра ведаюць: без мовы няма народу.

*Ю. Трубец.*



**На фота:** ля магілы Альгерда Абуховіча. У цэнтры – старшыня Слуцкай суполкі ТБМ сп.Курыльчык і Вольга Іпатава.



*А. П. Грыцкевіч*

# Польскі корпус у Расіі

## Ваенныя дзеянні ў Магілёўскай губерні ў студзені-лютым 1918 г.

Гісторыя стварэння Польскага корпуса ў Расіі ў 1917 г. і яго далейшых дзеянняў у савецкай гістарычнай і ваенна-гістарычнай літаратуры разглядаліся традыцыйна – толькі як барацьба савецкай улады з мецяжом корпуса Ю. Доўбар-Мусьніцкага і апісанне ваенных дзеянняў супраць яго на пачатку 1918 г. Такая традыцыя захавалася і ў беларускай гістарыяграфіі апошняга часу, зноў такі з савецкага погляду і з пазіцый класавай барацьбы і тлумачэнняў на гэтыя падзеі. Гісторыкі спасылаюцца на нешматлікія савецкія афіцыйныя дакументы і газетныя матэрыялы таго часу, а беларускія гісторыкі савецкага часу некрытычна абапіраюцца і на мемуары, складзеныя ўдзельнікамі тых падзей, былымі чырвонагвардзейцамі, праз 40 гадоў. У гэтых мемуарах чырвонагвардзейцы 1918 г. успамінаюць, як яны перамагалі белапалякаў (дададзім рэгулярныя вайсковыя часткі з дасведчанымі жаўнерамі), хаця іншыя дакументы і ўспаміны сведкаў таго часу гавораць пра зусім процілеглы ход падзей. Беларускія гісторыкі зусім ці амаль зусім не выкарыстоўвалі польскую літаратуру. Таму застаецца неабходным больш поўны разгляд гэтага пытання.

У расійскай арміі падчас першай сусветнай вайны служыла шмат палякаў, паколькі тэрыторыя Цэнтральнай і Усходняй Польшчы (Царства Польскае, Прывіслянскі край) уваходзіла ад часу напалеонаўскаіх войнаў у склад Расійскай імперыі. Шмат палякаў жыло ў Беларусі, Літве і Украіне, а таксама ў Пецярбургу і Маскве. Ад пачатку Сусветнай вайны ў арміі, акрамя кадравых афіцэраў і генералаў, апынулася і шмат мабілізаваных асобаў польскай нацыянальнасці.

На баку аўстра-венгерскай арміі змагаліся палякі з паўднёвай (аўстрыйскай) часткі Польшчы, не толькі ў аўстрыйскіх частках, але і ў створаных Ю. Пілсудскім польскіх легіёнах. Каб супрацьпаставіць аўстрыйскай прапагандзе сваё бачанне польскай справы, царызм пайшоў на некаторыя саступкі польскаму нацыянальнаму руху ў Расіі, абяцаючы ў выніку перамогі ў вайне стварыць "цэлакупную Польшчу" за кошт далучэння да расійскай тэрыторыі Царства Польскага тых польскіх тэрыторый, якія знаходзіліся пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай пад уладай Аўстрыі і Прусіі. Такая Польшча заставалася б пад уладай расійскага імператара.

Зыходзячы з гэтага, дзеячы польскай партыі нацыянал-дэмакратаў у Расіі, якія прытрымліваліся прарасійскай арыентацыі і мелі сваё прадстаўніцтва ў Дзяржаўнай Думе, ад восені 1914 г. да вясны 1915 г. арганізавалі з добраахвотнікаў Пулаўскі легіён, названы так па месцы яго фармавання ў горадзе Пулавы Люблeнскай губерні. Спачатку ён фармаваўся ў раёне Берасця. У гэтым легіёне налічвалася каля тысячы чалавек. Легіён быў накіраваны на фронт. Аддзелы легіёна ўдзельнічалі ў баях пад Зэльвай і на Палессі. З яго аддзелаў з 24 верасня 1915 г. пачала ўтварацца ў тыле расійска-германскага фронту ў Бабруйску Польская брыгада стралкоў (каля 4 тысяч чалавек) з афіцэраў і жаўнераў, палякаў, якія служылі ў расійскай арміі. Ад чэрвеня 1916 г. брыгада знаходзілася на фронце каля Баранавічаў.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі пачалі фармавацца палітычныя і грамадскія арганізацыі, у тым ліку і нацыянальныя. Шырокім быў польскі нацыянальны рух у расійскай арміі – пачалі стварацца польскія нацыянальныя камітэты вайскоцаў, якія намагаліся стварыць польскае войсковое злучэнне на баку расійскай арміі. Часовы ўрад ва ўмовах дэмакратызацыі Расіі вымушаны быў даць згоду на стварэнне нацыянальных вайсковых адзінак. Так былі створаны чэхаславацкі корпус у Расіі, бліжэй да восені 1917 г. латышскія і украінскія вайсковыя адзінкі, пазней – і беларускія.

Часовы ўрад Расіі даў згоду і на ўтварэнне польскага вайсковага злучэння на аснове брыгады польскіх стралкоў. Ужо ў красавіку 1917 г. стварацца 1-я дывізія польскіх стралкоў на чале з генерал-лейтэнантам расійскай арміі Тадэвушам Бычэўскім

Створана яна была ў Кіеўскай губерні. У траўні 1917 г. генерал Т. Бычэўскі быў абраны старшынём рады Польскіх Вайсковых фармаванняў у Расіі і пакінуў дывізію.

На аснове гэтай польскай дывізіі пачалі разгортвацца і наступныя польскія вайсковыя злучэнні ў Расіі. Польскія вайсковыя камітэты ў Расіі стварылі Цэнтральную ўправу саюза польскіх вайскоўцаў.

Вясной 1917 г. адбыліся з'езды вайскоўцаў – палякаў. З'езд польскіх вайскоўцаў Паўночнага фронту адбыўся ў Рэжыцы (Рэзекне, цяпер) 10-16 красавіка, Заходняга Фронту – у Менску 29 красавіка – 4 траўня.

З'езд у Менску паслаў тэлеграмы Часоваму ураду, Петраградскаму савету аб падтрымцы франтоў і Чарнаморскага флоту. У канцы траўня 1917 г. Часовы ўрад даў згоду сабраць агульны з'езд палякаў – вайскоўцаў. 8-22 чэрвеня ў Петраградзе засядаў I Ўсерасійскі з'езд вайскоўцаў-палякаў, ганаровым старшынёй якога завочна быў абраны камандуючы польскімі легіёнамі на другім баку германа-расійскага фронту Ю. Пілсудскі. Сам ён ужо знаходзіўся ў канфлікце з нямецкім камандаваннем і хутка быў арыштаваны. З'езд прыняў пастанову аб стварэнні польскага войска ў Расіі. На з'ездзе быў створаны польскі вайсковы камітэт на чале з У. Рачкевічам

1 (14) ліпеня 1917 г. адбылося аб'яднанне Цэнтральнай управы палякаў-вайскоўцаў у Расіі з абраным на 1 з'ездзе палякаў-вайскоўцаў польскім вайсковым камітэтам. Утварыўся Вярхоўны польскі вайсковы камітэт (Начполь), якому даручана было стварацъ польскія нацыянальныя вайсковыя злучэнні і часткі з палякаў, афіцэраў і жаўнераў расійскай арміі. Старшынём Начполя быў абраны малодшы афіцэр – харунжы (прапаршчык) Уладзіслаў Рачкевіч, адвакат з Менска, а ў 1939-1947 гг. прэзідэнт Польшчы ў эміграцыі.

У ліпені 1917 г. пачалося стварэнне 1-га польскага корпуса ў Расіі пад камандаваннем генерал-лейтэнанта расійскай арміі Юзафа Доўбар-Мусьніцкага (па-руску – Іосіфа Рамanавіча, як піша сам Ю. Доўбар-Мусьніцкі), камандзіра 38-га корпуса 10-й арміі, якая размяшчалася на баявых пазіцыях на Заходнім фронце, на захад ад Менска ў раёне Крэва

Дарэчы, у Энцыклапедыі гісторыі Беларусі і Беларускай Энцыклапедыі Доўбар-Мусьніцкі памылкова згадваецца як Іосіф Рамуальдавіч, а не Раманавіч. Генерал-лейтэнант Ю. Доўбар-Мусьніцкі быў прызначаны на пасаду камандзіра 1 Польскага корпуса загадам тагачаснага вярхоўнага галоўнакамандуючага расійскай арміі генерала ад інфантэрыі Л.Г. Карнілава 24 ліпеня (6 жніўня) 1917 г. Штат корпуса быў зацверджаны Л. Г. Карнілавым. Начальнікам штаба корпуса быў прызначаны генерал-маёр Агапееў. 1 Польскі корпус мусіў размясціцца на тэрыторыі Беларусі. У яго склад паступова пераводзіліся палякі, якія служылі ў расійскай арміі. Пераводам афіцэраў і жаўнераў у польскі корпус менавіта і займаўся Начполь у Петраградзе. Ужо восенню 1917 г. пачалося фармаванне II (камадзір з сакавіка 1918 г. генерал Юзаф Галер) і III (камандзір-генелаллейтэнант Эўгенюш дэ Генінг-Міхаэліс) Польскіх корпусаў на Украіне.

I Польскаму корпусу на ўзбраенне былі перададзеныя расійскія вінтоўкі сістэмы Мосіна ўзору 1891 г. Афіцэры корпуса насілі шаблі. Адзнакай афіцэраў і жаўнераў служыў арол са скрыжаванымі ўнізе шаблямі. На фуражках былі змешчаны эмблемы з арлом. Камандзір корпуса генерал-паручнік Ю. Доўбар-Мусьніцкі выдаваў афіцэрам пасведчанні на польскай мове. Большасць афіцэраў корпуса набіралася з палкоў расійскай кавалерыі. Ёсць звесткі, што ў склад корпуса набіраліся і беларусы-католікі, асабліва з Менскай і Віленскай губерняў. Па сведчанні аднаго з аўтараў, беларусы-католікі складалі ў корпусе ад 40 да 60 адсоткаў усяго складу.

Супраць стварэння нацыянальных вайсковых злучэнняў у Расіі выступілі прадстаўнікі левых польскіх партый – Сацыял-Дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ) і Польскай сацыялістычнай партыі – Левіцы (ППС –Левіца). 12 вайскоўцаў палякаў з гэтых партый пакінулі з'езд польскіх вайскоўцаў і ў чэрвені 1917 г. стварылі свой Галоўны камітэт польскіх вайскоўцаў, які выказаў сімпатыі да расійскай рэвалюцыйнай дэмакратыі і выступіў супраць стварэння польскіх войскаў у Расіі.

Аднак левыя сілы ў польскім войсковым руху былі занадта слабыя і не здолелі ўплываць на фармаванне польскіх войскаў у Расіі. Галоўным аргументам польскіх левых дзеячаў і некаторых польскіх дэмакратаў супраць стварэння польскіх узброеных сіл у Расіі было існаванне польскіх легіёнаў Ю. Пілсудскага ў акупаванай немцамі і аўстрыйцамі Польшчы, якія левыя лічылі сапраўдным польскім войскам.

Ужо ў канцы верасня 1917 г. у Беларусі былі размешчаны злучэнні і адзінкі I Польскага корпуса: 1-я дывізія стралкоў у Старым Быхаве, інжынерны полк у Дуброўне каля Оршы, артылерыйская частка ў раёне Віцебска, 1-ы полк Крэпавецкіх уланаў у Дукоры ля Менска. У снежні быў створаны 3-і полк уланаў у Чырвоным Бары паміж Бабруйскам і Жлобінам. У Смаленскай губерні размяшчалася ў Ельні 3-я дывізія стралкоў, у Дарагабужы – рэзервовая брыгада. У Зубцове (Цверская губерня) знаходзілася 2-я дывізія стралкоў. У снежні 1917 г. у Старакастанцінаве на Падолі быў сфармаваны 2-і полк уланаў

Штаб I Польскага корпуса знаходзіўся ў Менску ў доме № 10 на Серпухоўскай вуліцы (цяпер квартал па вул. Валадарскага ад вул. Карла Маркса да вул. Кірава). Акрамя таго, у Менску фармаваўся Афіцэрскі лігіён, які складаўся з адной пяхотнай роты, дывізіёна артылерыі і эскадрона кавалерыі. Супрацоўнічалі з корпусам і грамадскія арганізацыі. У жніўні 1917 г. утварылася Таварыства сяброў польскага жаўнера ў Менску, Магілёве і Навазыбкаве, а таксама ў Менску кола полек імя князя Юзафа Панятоўскага. Гэтыя арганізацыі займаліся асветай сярод жаўнераў корпуса і вялі прапаганду сярод жаўнераў і афіцэраў, каб тыя ўступалі ў корпус.

Польскі корпус фармаваўся паступова. Спачатку планавалася стварыць яго з дзвюх польскіх дывізій – 1-й дывізіяй камандаваў генерал-маёр Густаў Астаповіч, ураджэнец Гарадзеншчыны, а з лютага 1918 г. – палкоўніка Люцыяна Жалігоўскі, ураджэнец Ашмянаў, які да гэтага камандаваў 1-м стралковым палком гэтай дывізіі. Як вядома, генерал Л. Жамлігоўскі на чале 1-й Літоўска-Беларускай дывізіі войска Польскага ў кастрычніку 1920 г. заняў Вільню і Віленскі край, прымусіўшы літоўскае войска адступіць у Ковенскую Літву. Начальнікам штаба 1-й дывізіі 1-га Польскага корпуса быў тагачасны ротмістр Уладзіслаў Андэрс, які ў жніўні 1941 г. – верасні 1942 г. ужо як генерал дывізіі камандаваў Польскай арміяй у СССР.

2-й дывізіяй I Польскага корпуса ў Расіі камандаваў генерал-маёр Юзаф Крыштаф Лясьнеўскі, ураджэнец Віцебшчыны. У сакавіку – траўні 1918 г. камандзірам 2-й дывізіі быў палкоўнік Баляслаў Язьвінскі. Аднак для павялічэння колькасці войска генерал Ю. Доўбар – Мусьніцкі дамогся згоды Стаўкі Галоўнакамандуючага ў Магілёве на стварэнне і 3-й дывізіі корпуса, камандзірам якой спачатку быў прызначаны генерал-маёр Ю. Лясьнеўскі, а з 21 лістапада 1917 г. – генерал-маёр Вацлаў Івашкевіч.

Усе камандзіры дывізій былі расійскімі генераламі, а В. Івашкевіч (1871-1922) нават і сібіраком. Ён нарадзіўся ў Омску ў сям'і інжынера, шляхціца з Віцебскай губерні з апалячанага беларускага роду, сасланага у Сібір за ўдзел у паўстанні 1863 г. В. Івашкевіч так і не навучыўся добра гаварыць па-польску і са сваімі падуладнымі размаўляў па-руску. Беларускай мовы ён увогуле не ведаў. За гэта ў польскім войску яго называлі "праваслаўны", хаця па хрышэнні ён быў католікам. Ён не вельмі разбіраўся ў рэаліях на Беларусі і Украіне. Калі яго войскі падчас савецка-польскай вайны вызвалілі вясной 1920 г. Бердычаў (у якім быў самы высокі адсотак габрэйскага насельніцтва ва Украіне), то да яго ў штаб прыйшла дэлегацыя мясцовых сіяністаў падзякаваць за вызваленне горада ад бальшавікоў. Генерал В. Івашкевіч іх добра прыняў. Развітаўшыся з імі, генерал В. Івашкевіч звярнуўся да свайго ад'ютанта:

- Господин капитан! Если бы я не знал, что это сионисты, то подумал бы, что это жиды.

Разам з фармаваннем новых польскіх войсковых адзінак адбывалася і перагрупоўка польскага войска, каб сабраць яго ў адзіную сілу. Камандаванне Польскага корпуса, каб узмацніць ахову штабу корпуса, пераводзіла некаторыя адзінкі ў Менск. Так, 17 кастрычніка 1917 г. у Менск камандаванне выклікала эскадрон уланаў.

Адначасова вялася і грамадская праца. 15 кастрычніка 1917 г. у Менску адбылася ўрачыстасць, прысвечаная Т. Касцюшку. З гэтай нагоды быў праведзены парад вайсковых падраздзяленняў корпуса. 22 кастрычніка ў сувязі з рабаваннем абшарніцкіх маёнткаў сход польскіх дэлегацый з франтоў, армій і вайсковых акругаў абавязаў Начполь абараняць жыццё, культурны дарабак і маёмасць польскага насельніцтва ў Беларусі, што давала магчымасць войскам корпуса выступаць супраць дзеянняў сялянаў у дачыненні да абшарнікаў.

Паводле штатнага раскладу ў корпусе меркавалася мець 54681 шыхтовых і 8266 нешыхтовых жаўнераў, 1300 афіцэраў. Аднак на 1 верасня 1917 г. налічвалася толькі 5266 шыхтовых і 1337 нешыхтовых жаўнераў, 450 афіцэраў. У снежні 1917 г. у корпусе налічвалася 13148 шыхтовых жаўнераў. Сам Ю. Доўбар-Мусьніцкі прызнаваў што корпус быў неўкамлектаваны і раскінуты на вялікай тэрыторыі.

Паколькі разам з канцэнтрацыяй галоўных сіл Польскага корпуса ва ўсходняй часткі Беларусі ішло папаўненне яго баявых адзінак, то лічэбны склад корпуса вагаўся. На пачатку студзеня 1918 г. усяго ў складзе корпуса Ю. Доўбар-Мусьніцкага налічвалася разам 12 пяхотных і 3 кавалерыйскія палкі, а таксама цяжкая артылерыя. Агульная колькасць афіцэраў і жаўнераў ацэньвалася у 25-29 тысяч чалавек.



Падчас развалу расійскай арміі да корпуса далучаліся афіцэры-дабраахвотнікі і нямала жаўнераў, як да адзінай арганізаванай вайсковай сілы ва ўсходняй частцы Беларусі. Ураджэнцы Заходняй Беларусі далучаліся да корпуса, бо такім чынам маглі трапіць дадому. Бальшавікі, рыхтуючыся да кастрычніцкага перавароту і ў Менску звярнуліся да жаўнераў Польскага корпуса з улёткай не выступаць са зброяй у падтрымку "контррэвалюцыйных сілаў". Генерал Ю. Доўбар-Мусьніцкі, яго штаб і тры эскадроны польскіх уланаў, што ахоўвалі штаб, фактычна занялі нейтральную пазіцыю падчас устанаўлення ў Менску савецкай улады на пачатку лістапада 1917 г.

Да снежня 1917 г. сітуацыя ў Беларусі заставалася для бальшавікоў няпэўнай. У іх не хапала сілаў, каб цалкам кантраляваць праявы грамадскага жыцця. Дзейнічалі беларускія палітычныя арганізацыі, якія рыхтавалі скліканне Ўсебеларускага з'езду. Да канца 1917 г. у Менску заставаўся штаб I Польскага корпуса. Па-ранейшаму выходзілі польскія газеты і часопісы.

Пасля разгону бальшавікамі Ўсебеларускага з'езду ў снежні 1917 г. улада бальшавікоў паступова ўзмацнялася. Яшчэ 29 лістапада 1917 г. часова выконваючы абавязкі галоўнакамандуючыга Заходняга фронту прапаршчык А. Мяснікоў сваім загадам дазволіў стварэнне польскіх рэвалюцыйных батальёнаў, каб супрацьпаставіць іх Польскаму корпусу. У снежні 1917 г. у Менску фармавалі першы польскі рэвалюцыйны батальён. У гэтых умовах штаб I Польскага корпуса ў снежні 1917 г. перамясціўся ў мястэчка Дукора, а потым у Бабруйск.

На палітычную сітуацыю ў Беларусі пасля кастрычніцкага перавароту ўплывала і знешняя палітыка новай савецкай улады ў Расіі, якая намагалася ўмацаваць свае пазіцыі ў краіне шляхам заключэння перамір'я з Германіяй і яе саюзнікамі. 21 лістапада (4 снежня) 1917 г. на Заходнім фронце, на чыгуначным вакзале станцыі Солы, нямецкае і расійскае камандаванне заключалі перамір'е, якое потым працягвалася. 20 лістапада (3 снежня) у Брэсце-Літоўскім пачаліся перамовы паміж Расіяй і Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Турцыяй і Балгарыяй аб перамір'і ад 4-17 снежня да 1-14 студзеня 1918 г. з аўтаматычным яго працягам да папярэднй ад-мовы ад яго адным з бакоў (за 7 дзён да ўзнаўлення ваенных дзеянняў).

9 (22) снежня ў Брэсце пачаліся перамовы пра заключэнне міру.

Савецкі ўрад у гэты час дазволіў войскам I Польскага корпуса сканцэнтравацца ў раёне Бабруйск-Рагачоў- Жлобін, бо ў гэтым раёне былі запасы харчавання і фуражу. На пачатку студзеня 1918 г. першая дывізія знаходзілася ў раёне Рагачова, другая – у раёне Бабруйска, трэцяя прасоўвалася з Ельні і Рослаўля на захад дзеля злучэння з асноўнымі сіламі корпуса. Ва ўмовах фактычнай дэмабілізацыі расійскай арміі пасля заключэння перамір'я з Германіяй, а таксама масавага, амаль пагалоўнага, дэзерцірства з фронту Першы польскі корпус уяўляў небяспеку для савецкай улады ў Беларусі, тым больш што сярод значнай часткі польскага насельніцтва Беларусі пашырыліся антысавецкія настроі. Сярод абшарнікаў і гэтай часткі насельніцтва ўскладаліся вялікія спадзяванні на войскі Польскага корпуса. У штабе корпуса служылі і расійскія афіцэры 8(21) снежня 1917 г. савецкі вярхоўны галоўнакамандуючы прапаршчык М. В. Крыленка запатрабаваў ад камандавання Першага польскага корпусу выканаць загады савецкага ўраду аб дэмакратызацыі арміі. Камандаванню корпуса загадалі правесці выбары салдацкіх камітэтаў з правам кантролю за дзеяннямі камандавання, правесці выбары салдатамі сваіх камандзіраў, прыняць прызначаных савецкім камандаваннем камісараў-бальшавікоў і г.д. Генерал Ю. Доўбар-Мусьніцкі і Начполь катэгарычна адмовіліся ад выканання загаду, бо ён ставіў корпус у поўнае падпарадкаванне бальшавікам.

У снежні 1917 г. Начполь склікаў у Менску з'езд палякаў-вайскоўцаў Паўночнага, Заходняга, Паўднёва-Заходняга і Румынскага франтоў. На з'ездзе Начполь прызналі адзіным вышэйшым органам польскай вайсковай грамадскасці. Канфлікт паміж камандаваннем Польскага корпуса і органамі савецкай улады працягваўся.

Генерала Ю. Доўбар-Мусьніцкага выклікалі ў Стаўку Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, якая знаходзілася ў Магілёве, і прапанавалі вывесці 1-ю польскую стралковую дывізію з Быхава. Начальнік штаба Стаўкі генерал-лейтэнант М. Д. Бонч-Бруевіч (родны брат бальшавіка У.Д. Бонч-Бруевіча, кіраўніка справамі Саўнаркаму ў Петраградзе) прапанаваў для дыслакацыі адзінак корпуса раён Рагачова-Жлобіна-Бабруйска, далей ад рэвалюцыйнай Стаўкі. Штабу корпуса прапаноўвалася выехаць з Менска ў Бабруйск.

Паміж вайсковым кіраўніцтвам рэвалюцыйнай Расіі не было згоды і зладжанасці ў дзеяннях. У гэты ж час выконваючы абавязкі галоўнакамандуючага Заходняга фронту А. Ф. Мяснікоў 14(27) снежня 1917 г. у сваім загадзе адзначыў невыкананне камандаваннем 1-га Польскага корпуса загаду савецкага камандавання аб дэмакратызацыіі арміі і загадаў неадкладна правесці дэмакратызацыю. Адначасова да 1(14) студзеня 1918 г. часткі корпуса павінны былі перайсці на лінію расійска-германскага фронту і падпарадкавацца камандаванню Заходняга фронту, г. зн. А.Ф. Мяснікову.

4(17) студзеня 1917 г. вярхоўны галоўнакамандуючы М. Крыленка падпісаў загад аб арышце сяброў Начполю. Выкананне загаду даручылі польскаму батальёну 1-га рэвалюцыйнага імя Менскага савета палка.

Але, пакуль у памяшканне прыйшлі савецкія жаўнеры, трынаццаць сяброў Начполю, якія раней даведаліся пра арышт, не прыйшлі, а шэсць, якіх затрымалі, паспелі схаваць альбо знішчыць ваенныя дакументы. Праз некалькі дзён яны ўцяклі з турмы ў Дукору, адтуль пераехалі ў Бабруйскую цвердзь разам са штабам 1-га Польскага корпуса.

Камісарыят польскіх справаў Заходняй вобласці і фронту, падпарадкаваны народнаму камісару нацыянальных справаў савецкага ўраду Заходняй вобласці С. Берсану выступіў у газетах з матэрыяламі супраць камандавання і афіцэраў Польскага корпуса. Было апублікавана патрабаванне аб дэмакратызацыі корпуса пад пагрозай яго раззбраення. 7(20) студзеня 1918 г. савецкае камандаванне выдала загад аб раззбраенні і расфармаванні корпуса. У адказ 11(24) студзеня 1918 г. генерал Ю. Доўбар-Мусьніцкі перадаў з Дукоры па тэлеграфу савецкаму вярхоўнаму галоўнакамандуючаму М. Крыленку ў Магілёў і камандуючаму Заходнім фронтам А. Мяснікову ў Менск, што ад 12 гадзін дня 12(25) студзеня 1918 г. Першы польскі корпус знаходзіцца ў стане вайны з савецкай Расіяй.

Баявыя адзінкі корпуса пачалі наступ на Магілёў. 13(26) студзеня 1018 г. 1-я пяхотная дывізія заняла Рагачоў. Раніцай 12(25) студзеня 1918 г. два палкі з баямі занялі Жлобін, але да вечара былі выбітыя з горада савецкімі салдатамі і чырвонагвардзейцамі.

Адначасова пачаўся наступ на Менск уздоўж чыгункі Менск-Гомель. Іншыя польскія адзінкі і аддзелы накіраваліся да Бабруйскай цвердзі чыгункаю з розных бакоў. Частка польскіх войскаў прасоўвалася па чыгунцы. 3-я дывізія корпуса наступала з Рослаўля паўз Клімавічы і праз Чэрыкаў на Рагачоў. Асобныя часці гэтай дывізіі ішлі да Рагачова праз Прапойск і Карму.

Польскія войскі ў занятых мясцовасцях разганялі мясцовыя саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў, арыштоўвалі партыйных і савецкіх работнікаў. Штаб 1-й польскай дывізіі, якая заняла Рагачоў, абвясціў узнаўленне Польскай дзяржавы, куды ўключалася і Магілёўская губерня, якая ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай да яе першага падзелу.

Савецкі галоўнакамандуючы М.В. Крыленка ў Магілёве і камандуючы Заходнім фронтам А.Ф. Мяснікоў у Менску мелі няшмат войскаў, якія складаліся з рэштак расійскай арміі ў Беларусі (яны называліся "салдатамі рэвалюцыйнай арміі") і чырвонагвардзейцаў з гарадскіх і местачковых пралетарыяў, якія ваяваць яшчэ не навучыліся. Таму першыя спробы перамагчы войскі 1-га Польскага корпуса аказаліся няўдачнымі. Савецкіх войскаў у Магілёўскай губерні не хапіла для перамогі. Супраць войскаў Польскага корпуса ў першай фазе вайсковай аперацыі дзейнічалі Магілёўскі, Гомельскі, Асіповіцкі, Смаленскі, Віцебскі, атрады Чырвонай гвардыі, Магілёўскі атрад матросаў (500 чал.), 19-ы сібірскі і 1-ы рэвалюцыйны імя Менскага Савету полк.

Галоўнай задачай савецкага камандавання было захаваць асноўныя цэнтры, дзе канцэнтравалася савецкая ўлада – Магілёў і Менск. Таму было вырашана ўступіць у перамовы з польскім камандаваннем, а ў гэты час перакінуць з іншых мясцовасцяў больш надзейныя вайсковыя сілы.

17(30) студзеня 1918 г. у Менску адбылася нарада супрацоўнікаў Камісарыяту польскіх справаў, прадстаўнікоў народнага камісарыяту па справах нацыянальнасцяў саўнаркаму заходняй вобласці і фронту і кіраўнікоў саюзу палякаў-вайскоўцаў. Апошнія, праўда, прызналі, што Ю. Доўбар-Мусьніцкі не можа займаць пасаду камандзіра корпуса, але адмовіліся адыйсці ад яго камандавання да 20 лютага, калі мусіў сабрацца чарговы з'езд палякаў-вайскоўцаў. Адмоўна паставаліся яны і да дэмакратызацыі корпуса.

Згодна з папярэдняй дамоўленасцю, ля станцыі Цялуша (17 кіламетраў на паўднёвы ўсход ад Бабруйска) адбылася сустрэча камісіі камісарыяту польскіх справаў пры народным камісарыяце нацыянальнасцяў Саўнаркаму Расіі (па дамоўленасці з М.В. Крыленкам, да яго яна з'ездзіла ў Магілёў) і генералам Ю. Доўбар-Мусьніцкім дзеля ўрэгулявання канфлікту. Сустрэча адбылася непадалёку ад станцыі Цялуша і працягвалася 12 гадзін. З польскага боку ў сустрэчы ўдзельнічалі Ю. Доўбар-Мусьніцкі, начальнік штаба корпуса генерал-маер Агапееў, два польскія афіцэры і некалькі жаўнераў.

Савецкая камісія прапанавала наступныя ўмовы ліквідацыі канфлікту: 1) свабода савецкай агітацыі сярод жаўнераў корпуса і сярод беларускага насельніцтва ў мясцовасцях, занятых польскім войскам; 2) дэмакратызацыя корпуса; 3) выбары камандзіраў жаўнерамі; 4) прыняцце ў корпусе прадстаўніка камісарыяту па польскіх справах; 5) неўмяшанне корпуса ў вырашэнне аграрнага пытання. Фактычна гэта не толькі паўтарыла ранейшыя патрабаванні, але вяла да ліквідацыі корпуса як вайсковай сілы. Таму прадстаўнікі 1-га корпуса адхілілі гэтыя патрабаванні. А ў гэты час 2 лютага (20 студзеня) польскія войскі занялі Бабруйск і падцягваліся да раёну канфлікту. 21 студзеня (3 лютага) 1918 г. А.Ф. Мяснікоў пасля ўзгаднення с вярхоўным галоўнакамандуючым М.В. Крыленкам аддаў загад аб расфармаванні 1-га Польскага корпуса. На наступны дзень М.В. Крыленка загадаў польскім жаўнерам арыштаваць камандны склад корпуса. Доўбар-Мусьніцкі абвяшчаўся па-за законам як "вораг рэвалюцыі". Афіцэраў, якія адмовіліся б здаць зброю, прапанавана было аддаць пад суд, а пры супраціве расстрэльваць на месцы. Але гэта былі "папяровыя" меры. Польскія жаўнеры ў большасці не падпарадкоўваліся гэтым загадам. Тым не менш да канца студзеня, з-за бальшавіцкай агітацыі частка жаўнераў пакінула свае вайсковыя часткі. Частка перайшла на савецкі бок.

А ў гэты час былі падцягнутыя новыя савецкія сілы - перакінутыя з фронту атрады латышскіх стралкоў, рэвалюцыйных матросаў і чырвонагвардзейцаў. Узначальваў гэтыя сілы І.І. Вацэціс (былы палкоўнік). Гісторыкі налічваюць да 10 тысяч савецкіх салдатаў, маракоў і чырвонагвардзейцаў.

Адначасова была абвешчана дабраахвотная дэмабілізацыя жаўнераў польскага корпуса – у Магілёве. Менску і іншых мясцовасцях – праз дэмабілізацыйны аддзел камісарыяту па польскіх справах. Дэмабілізавалася некалькі тысяч жаўнераў. У гэты ж час Магілёўскі губвыканкам 15(28) студзеня выдаў узгоднены са Стаўкай Вярхоўнага Галоўнакамандуючага загад аб арышце ў якасці закладнікаў прадстаўнікоў польскай і расійскай буржуазіі, лідараў кадэцкай партыі і саюзу землеўласнікаў. Іх грашовыя сродкі былі канфіскаваныя. Арышты праводзіліся і ў Віцебскай ды Менскай губернях. Адначасова сялянам дазволілі забіраць маёмасць з памешчыцкіх маёнткаў, што тыя рабілі з вялікай ахвотай. Чырвонагвардзейцы і сяляне забівалі параненых польскіх жаўнераў, лекараў і медыцынскіх сясцёр. Так быў разгромлены шпіталь у мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага павету (гл. аповесць М. Ваньковіча).

26 студзеня (8 лютага) 1918 г. пачаўся наступ савецкіх войскаў на часткі корпуса на поўнач ад Рагачова. Праз два дні чырвоныя войскі занялі Старое Сяло, Мадоры і станцыю Тошчыца. У ноч з 30 на 31 студзеня (12-13 лютага) савецкія часткі з боем узялі Рагачоў. Часткі 1-й польскай дывізіі адступілі да Бабруйска. Ваенныя дзеянні адбываліся і ў іншых мясцовасцях.

Генерал Ю. Доўбар-Мусьніцкі паставіў сваёй мэтай сабраць усе тры дывізіі корпуса і іншыя часткі ў адным раёне і нанесці ўдар па слабым атрадам чырвонагвардзейцаў на менскім кірунку, намагаючыся прасунуцца да Слуцка і Менска, каб потым аб'яднаць сілы з падпольнай польскай вайсковай арганізацыяй, а магчыма і з польскімі легіёнамі ў Польшчы.

Найбольш упартыя баі адбываліся ў лютым 1918 г. Гэты месяц быў вельмі кароткім у Расіі і Беларусі. Усяго ён складаўся з 15 дзён. Дэкрэтам Саўнаркаму дзень 14 лютага 1918 г. быў прызначаны ў савецкай Расіі ўжо паводле новага стылю. Замест 1 лютага пасля 31 студзеня наступіў дзень 14 лютага.

Замацаваўшыся ў Бабруйску, польскія войскі працягвалі наступ на Слуцк і Менск. 7 лютага 1918 г. 2-я дывізія Польскага корпуса заняла Жлобін. Такім чынам, Ю. Доўбар-Мусьніцкаму ўдалося перахапіць шляхі падвозу савецкіх войскаў на Заходні фронт з Украіны. Паколькі наступ польскіх войскаў у кірунку на Магілёў не ўдаўся, бо ў польскай дывізіі не было артылерыі (не паспелі падвезці), то польскія войскі мусілі 8 лютага адступіць на Бабруйск. У гэты час 3-я польская дывізія здолела, з-за дрэннага ўзаемадзеяння паміж рагачоўскай і жлобінскай групамі чырвоных войск, праслізнуць паміж гэтымі групоўкамі і далучыцца да сваіх галоўных сіл.

На менскім кірунку войскам 2-й польскай дывізіі ўдалося разбіць чырвонагвардзейскія атрады ў ноч з 18 па 19 лютага ля станцый Ясень і Асіповічы, якія былі занятыя польскімі войскамі.

А ў гэты час з-за зрыву мірных перагавораў у Берасці савецкім бокам германскае камандаванне 16 лютага абвясціла, што перамір'е на фронце спыняецца. З 12 гадзін дня 18 лютага нямецкія войскі пачынаюць наступ на ўсім расійска-германскім фронце.

*(Заканчэнне на ст. 12.)*

